20 чэрвеня 2014 | № 24 (393)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ



ISSN 2218-2144

**4 РЭКВІЕМ ПА МАДЭРНІЗАЦЫІ**

Апора на традыцыйныя каштоўнасці азначае фактычны пераход да палітыкі ізаляцыі ад Захаду

**12 ГАРЫ ПОТЭР І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ШАТЛАНДЫІ**



Публічная падтрымка пісьменніцы Джаан Роўлінг кампаніі супраць незалежнасці Шатландыі выклікала цікавую рэакцыю брытанскага грамадства

**15 ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПАД ЦЭНЗУРНЫМ АБСТРЭЛАМ**



Да 90-годдзя Васіля Быкава ў выдавецтве «МЕДЫЯЛ» пры падтрымцы мецэната Паўла Бераговіча выйшлі адразу дзве ўнікальныя кнігі — «Мёртвым не баліць» і «Ліквідацыя» — і абедзве ўпершыню апублікаваныя без цэнзурных купюр

**14 ДЭПАРТАЦЫЯ ПАД БОМБАМІ**

У маі-чэрвені 1941 года адбылася чацвёртая хваля дэпартацыі насельніцтва Заходняй Беларусі ўглыб СССР. Апошнія эшалоны з людзьмі пакідалі Беларусь пад бомбамі самалётаў Люфтвафэ

# Першае папярэджанне ЕАЭС

**«Вечна ты ў нешта ўступіш, ці ў лайно, ці ў партыю», — казала свайму мужу Сара Рабіновіч, даведаўшыся, што ён уступіў у КПСС. У нас тая ж праблема — мы ўступілі ў ЕАЭС.**



Сяргей ПУЛЬША

Яшчэ не высахлі чарнілы на падпісаным дакуменце, яшчэ не пачалася дзейнасць ЕАЭС, яшчэ не ратыфікаваныя гэтыя пагадненні парламентамі краін, але ў нас ужо пачаліся праблемы. Размаўляць пра гэтыя праблемы ў Мінск прыязджаў міністр замежных спраў Расіі Сяргей Лаўроў.

Кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства Уладзімір Макей, сустракаючы расійскага калегу, быў настолькі ўражаны, што супярэчыў сам сабе. «Праблем у нашых адносінах няма абсалютна ніякіх», — спачатку заявіў ён. Але потым дадаў, што «цяжкасці наяўнага характару, якія маюцца, будуць абмеркаваныя на сённяшніх перамовах у дружалюбным канструктыўным духу». Так што праблемаў няма — ёсць цяжкасці, і разумей гэта як хочаш.

Цяжкасці нашыя стандартныя і ўсім вядомыя. Пра абяцаны Пуціным яшчэ 7 мая (пра што Лукашэнка паведаміў на парадзе 9 мая) крэдыт у 2 мільярды долараў на падтрымку золатавалютных рэзерваў Беларусі пакуль што нічога не чуваць. Грошы абяцаліся напрыканцы мая — ужо сярэдзіна чэрвеня. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, ЗВР Беларусі на 1 чэрвеня 2014 года склалі 5 395,6 мільёна долараў, скараціўшыся ў маі на 84,5 мільёна «баксаў». То бок, крэдыт не прыйшоў. А ён, між іншым, быў адной з умоваў падпісання Беларуссю дамовы пра ЕАЭС.

Другая цяжкасць: нягледзячы на тое, што краіне ўжо ў гэтым годзе абяцалі «палёгку» па выплаце ў расійскі бюджэт экспартных пошлінаў на нафтапрадукты па схеме «50 на 50», мы ўсё яшчэ працягваем плаціць усе 100% пошліны — па 300 мільёнаў штомесяц. І гэта таксама ўваходзіла ў «пакет» ЕАЭС.

Так што Беларусь відавочна незадаволеная дзеяннямі (а дакладней, бяздзеяннем) Расіі. І Лукашэнка праз Лаўрова папярэдзіў свайго расійскага калегу Уладзіміра Пуціна: да восені гэтыя пытанні павінны быць вырашаныя.

Паводле Лукашэнкі, бакі вырашаюць праблемы «ў нармальным рэжыме», але беларускі кіраўнік выказаўся за правядзенне напачатку восені Саўміна Саюзнай дзяржавы. «Думаю, нам трэба ў бліжэйшы час, у пачатку восені, абмеркаваць пытанні нашых адносін у фармаце Саюзнай дзяржавы. Думаю, што як мінімум урады павінны сабрацца і правесці саюзны Саўмін, каб адрэгуляваць некаторыя праблемы ў сувязі з Еўразійскім эканамічным саюзам, які распачне сваю дзейнасць», — прапанаваў Лукашэнка.

Чаму напачатку восені? Усё проста. Таму што, па-першае, гэта час Пуціну, каб той пачаў выконваць дамоўленасці. А па-другое, восеньская сесія беларускага парламента адкрываецца звычайна 2 кастрычніка. Да гэтага моманту беларускаму кіраўніцтву трэба ведаць, на якім яно знаходзіцца свеце, каб даваць ці не даваць «адмашку» на ратыфікацыю дамовы пра ЕАЭС.

Тое, што дамова можа быць не ратыфікаваная, яшчэ раз пацвердзіў Уладзімір Макей. Услед за Аляксандрам Лукашэнкам, які заяўляў пра тое ж 28 мая, і, што важна, амаль тымі ж словамі, кіраўнік МЗС Беларусі агучыў: дамова аб ЕАЭС па сваім змесце «не зусім адпавядае тым мэтам, якія былі прадэкляраваныя раней». Паводле слоў Макея, Беларусь зыходзіць з таго, што падпісанне дагавора аб стварэнні ЕАЭС — гэта «паступальны крок у развіцці інтэграцыйных працэсаў на постсавецкай прасторы». «Іншая справа, што кожны з удзельнікаў гэтага працэсу, можа быць, не зусім задаволены канчатковым вынікам на дадзеным этапе, і мы лічым, што цяперашні дагавор па змесце не зусім адпавядае тым мэтам, якія былі прадэкляраваны раней», — дадаў Макей.




**Спадар Лаўроў мяркуе, што ЕС паступова ўвойдзе ў Еўразійскі эканамічны саюз**

Такім чынам Лаўрову ў Мінску вынеслі «першае папярэджанне». А што ж Лаўроў? Лаўроў — вялікі казачнік. Замест таго, каб вырашаць пытанні, ён паспрабаваў упэўніць беларускае кіраўніцтва ў тым, што «касмічныя караблі бараздзяць прасторы Вялікага тэатра». Паводле яго ных словаў, «шматбаковая дамоўленасць — заўсёды пакет кампрамісаў, так было і гэтым разам. На гэтым жыццё не канчаецца».

«Еўразійскі эканамічны саюз будзе паглыбляцца, развівацца, разрастацца. У хуткім часе чакаецца афіцыйнае далучэнне Арменіі да гэтага дагавора. Пасля аналагічны крок будзе зроблены з боку нашых кіргізскіх сяброў», — сказаў Лаўроў. Паводле яго слоў, еўразійскі інтэграцыйны працэс з'яўляецца «працэсам, адкрытым для супрацоўніцтва з іншымі інтэграцыйнымі аб'яднаннямі, уключаючы Еўрапейскі саюз». Зараз, сказаў Лаўроў, пачынаюцца перамовы «аб стварэнні зоны свабоднага гандлю паміж Еўрасаюзам і Мытным саюзам».

«У нашых агульных інтарэсах працаваць над гарманізацыяй інтэграцыйных працэсаў у розных частках Еўропы і Еўразіі. У тым ліку маючы на ўвазе паступовае фарміраванне адзінай эканамічнай і гуманітарнай прасторы ад Атлантыкі да Ціхага акіяна», — дадаў Лаўроў.

Такім чынам, спадар Лаўроў мяркуе, што Еўрапейскі саюз, якому 22 гады, калі лічыць ад Маастрыхскай дамовы аб ЕС, і 65 — калі лічыць ад утварэння Савету Еўропы, паступова ўвойдзе ў Еўразійскі эканамічны саюз, які яшчэ і не пачаў працаваць. Ці не летуценік?

Пра тое, што ЕС хутка далучыцца да Беларусі і Расіі, мы ўжо чулі. Напрыклад, 18 год таму, калі стваралася Саюзная дзяржава. І дзе?

Што ж тычыцца «гуманітарнай прасторы ад Атлантыкі да Ціхага акіяна» — не дай Божа! Гэтую «гуманітарную прастору» мы бачылі на прыкладзе Чачні, Прыднястроўя, Грузіі, і зараз — Украіны. Дзякуй, не трэба!

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАБРУЙСК. Канфіскавалі подпісы за «Народны рэферэндум»



**Вечарам 17 чэрвеня супрацоўнікі міліцыі затрымалі і адвезлі ў аддзяленне бабруйскую актывістку кампаніі «Гавары праўду» Яніну Аўсянік. Яна збірала подпісы за правядзенне «Народнага рэферэндуму».**

Нечаканая сустрэча з супрацоўнікамі міліцыі адбылася ў доме №187 па вуліцы Гогаля. Як мяркуе Яніна Аўсянік, іх выклікала мясцовая жыхарка, якая перад гэтым паведаміла зборшчыцы подпісаў, што яе сын працуе ў міліцыі.

«Яніна паспела сабраць 34 подпісы, іх у аддзяленні забралі і не вярнулі, — распавяла бабруйская каардынатарка кампаніі «Гавары праўду» Алена Мядзведзева. — Таксама на яе склалі пратакол, але Яна адмовілася яго падпісваць. Яе пратрымалі ў аддзяленні тры гадзіны, адпусцілі каля 22.00 гадзін вечара».

Яніна Аўсянік паведаміла, што супрацоўнікі міліцыі паабяцалі выклікаць яе на размову яшчэ раз, позвай.

### БРЭСТ. Патрабаванні раварыстаў задаволілі часткова



**Актывісты кампаніі «За Вела-Брэст», якія выступаюць за стварэнне спрыяльных умоваў для роварнага руху, накіравалі ў Брэсцкі гарвыканкам зварот, дзе пералічаны асноўныя патрабаванні, што тычацца развіцця ў горадзе належнай веласінфраструктуры.**

У атрыманым афіцыйным адказе ад уладаў гаворыцца, што ўсе запланаваныя захады пасля ранейшага звароту велааматараў, які быў у 2012 годзе, зроблены, а наступныя дзеянні знаходзяцца пад кантролем намесніка старшыні гарвыканкама.

Каардынатар кампаніі "За Вела-Брэст" Уладзімір Красько пагаджаецца, што апошнім часам умовы для карыстання роварам палепшыліся, значна павялічылася колькасць роварных палос, з'явіліся пандусы на пераездах і велапаркоўкі.

Разам з тым, адным з галоўных патрабаванняў актывістаў застаецца стварэнне сеткі дарог, якая б злучала ўсе мікраараёны горада. Фармальна такая сетка існуе, але яна не адпавядае не толькі нормам бяспечнага руху, але і здароваму сэнсу, бо ёсць месцы, дзе бардзюры на 10 сантыметраў вышэй за дарожнае пакрыццё.

Актывісты кампаніі рыхтуюць свае новыя заўвагі і прапановы на разгляд адпаведных гарадскіх служб, каб велаінфраструктура ў Брэсце працягвала развівацца.

### ГОМЕЛЬ. Праваабаронца ініцыяваў пракурорскую праверку



**Гомельскі праваабаронца Анатоль Паплаўны просіць пракурора Гомеля Сяргея Зайцава правесці праверку ТАА «ОМА», дзе на яго скаргу на беларускай мове ў кнізе заўваг і прапаноў адказалі на рускай мове.**

Дырэктарка крамы Наталля Урублеўская лічыць што «дзелавая перапіска і заканадаўчыя дакументы павінны даводзіцца да насельніцтва на рускай мове».

Праваабаронца са спасылкай на нормы закону лічыць, што адказ яму мусілі даць на мове звароту, а менавіта на беларускай мове.

«У дзеяннях кіраўніцтва ТАА «ОМА» ў частцы адказу на скаргу не на мове звароту ўгледжваю парушэнне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў», паводле артыкула 18 якога пісьмовыя адказы на пісьмовыя звароты выкладаюцца на мове звароту»,— напісаў пракурору праваабаронца.

«Артыкул 26 названага Закона ўсталёўвае, што за парушэнне парадку разгляду зваротаў арганізацыі, іх службовыя асобы, індывідуальныя прадпрымальнікі і іх работнікі нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі. Артыкулам 9.13 КаАП за парушэнне заканадаўства аб зваротах грамадзян устаноўлена адміністрацыйная адказнасць», — дапоўніў заяву пракурору Гомеля Анатоль Паплаўны.

Праваабаронца просіць правесці праверку, па выніку якой прыцягнуць вінаватых службовых асоб ТАА «ОМА» да адміністрацыйнай адказнасці і аб прынятых мерах паведаміць у яму пісьмова.

Нагадаем, за парушэнне парадку разгляду зваротаў грамадзян усталявана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе адміністрацыйнага штрафу ў памеры ад 4 да 10 базавых адзінак (ад 600 тысяч рублёў — да 1,5 мільёна рублёў).

**Паводле сайта spring96.org**

# Чацвёртая адмова

Марат ГАРАВЫ

**Суд Бабруйскага раёна і горада Бабруйск Магілёўскай вобласці ў чацвёрты раз запар адмовіў заяўнікам у праве правядзення пікетавання ў цэнтры Бабруйску. Менавіта такое рашэнне прыняла суддзя Алена Манкевіч, паведаміла ў інтэрв'ю НЧ бабруйчанка Валянціна Каваленка.**

Яна распавяла, што 9 красавіка разам з бабруйчанкай Любоўю Санкевіч звярнулася да гарадскіх уладаў з заяўкай на правядзенне 2 траўня ў цэнтры Бабруйску пікета групай грамадзянаў у колькасці сем чалавек. Прычым выбранае месца поўнасцю адпавядала патрабаванням Закона Рэспублікі Беларусь «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь». Людзі збіраліся выйсці на пікетаванне з плакатамі: «У Канстытуцыі правы і свабоды на паперы, а нам яны патрэбныя ў жыцці!», «Чыноўнікі кіруюцца не Канстытуцыяй, а ўласнымі ўяўленнямі», «Чыноўнікі суду і пракуратуры, дайце адказы на нашыя пытанні!».

Паколькі заяўнікі атрымалі фармальную адмову, грамадзяне звярнуліся ў суд. Аднак, на думку Валянціны Каваленкі, суд з самага пачатку стаў на бок уладаў і ў чарговы раз не дапусціў у грамадзянскі працэс прадстаўніка заяўнікаў, нягледзячы на тое, што права грамадзянаў на свайго прадстаўніка ў судзе прадастаўлена Канстытуцыяй і Грамадзянска-працэсуальным кодэксам Рэспублікі Беларусь, а таксама растлумачана пастановай пленуму Вярхоўнага суду краіны.

Паводле словаў жанчыны, паколькі заяўнікі засталіся без юрыдычнай дапамогі, яны вымушаныя былі пакінуць залу судовых пасяджэнняў пасля таго, як Алена Манкевіч не задаволіла заяву грамадзянаў аб адводзе суддзі. «Прычым суддзя вынесла сваё рашэнне нават без разгляду ўсіх нашых патрабаванняў. Апроч таго, складваецца ўражанне, што Алена Манкевіч проста спісала сваё рашэнне з пастановаў мінулых судоў, якія разглядалі нашыя скаргі», — сказала Валянціна Каваленка.

Яна нагадала, што з пачатку года заяўнікі правялі чатыры працэсы супраць уладаў Бабруйску ў сувязі з адмовамі ў правядзенні пікетавання. На меркаванне жанчыны, усе мясцовыя суддзі — Марына Шэлягіна, Віялета Закржэўская і Алена Манкевіч — аднолькава непаважліва ставіліся да Канстытуцыі, Грамадзянска-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусі, а таксама да пастановы пленуму Вярхоўнага суду краіны. «І гэта сведчыць пра тое, што кар'ера і дабрабыт гэтых суддзяў аніяк не залежаць ад добрасумленнага выканання сваіх прафесійных абавязкаў у межах айчыннага заканадаўства», — заявіла Валянціна Каваленка.

Яна паведаміла, што зараз Бабруйскі гарвыканкам разглядае пятую заяўку жыхароў гораду на правядзенне ў цэнтры Бабруйску пікетавання ў абарону грамадзянскіх правоў на атрыманне адказаў па сутнасці на звароты людзей.

# Без акрэдытацыі

**Прадстаўніца АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч выказала занепакоенасць з нагоды павелічэння колькасці штрафаў беларускім журналістам за працу без акрэдытацыі. Пра гэта гаворыцца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным АБСЕ 17 чэрвеня.**

«Я занепакоеная, бо гэтая практыка можа эфектыўна забараніць журналістам выконваць сваю працу, — сказала Міятавіч. — Учорашняе рашэнне суда па справе Андрэя Мялешкі падкрэслівае неабходнасць вырашэння гэтага пытання неадкладна».

Акрамя штрафу А. Мялешку, АБСЕ нагадвае пра нядаўнія аналагічныя рашэнні па судовых справах Алеся Залеўскага і Аляксандра Дзянісава, а таксама пра папярэджанні Святлане Сцяпанавай, Яўгену Скрабцу, Юліі Сівец, Мікалаю Бянько і Юрыю Дзешуку.

«Акрэдытацыя не павінна быць ліцэнзіяй на дзейнасць, і яе адсутнасць не павінна абмяжоўваць журналістаў у іх праве працаваць і свабодна выказваць свае меркаванне, — адзначыла Дуня Міятавіч. — Усе журналісты павінны мець тыя ж прафесійныя правы, што і журналісты зарэгістраваных СМІ, — у тым ліку права на пошук і распаўсюд інфармацыі».

Дуня Міятавіч таксама паведаміла, што 5 чэрвеня яна напісала міністру замежных спраў Уладзіміру Макею пра неабходнасць перагледзець патрабаванні акрэдытацыі журналістаў.

Аўтары прэс-рэліза нагадваюць, што ў 2008 годзе Бюро Прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ выказала заклапочанасць некаторымі пунктамі тагачаснага беларускага законапраекта аб СМІ (цяпер — дзейнага закона аб СМІ), якія прадугледжвалі складаную сістэму рэгістрацыі СМІ і акрэдытацыі журналістаў.

**Прэсавая служба БАЖ**

# Абаронім мову сваімі сіламі

**Рабочая група Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі падтрымала ініцыятыву юрыста Гары Паганяйлы звяртацца ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусі наконт хібаў у моўным заканадаўстве, што дазваляюць дыскрымінаваць беларускую мову.**



Змены ў заканадаўстве аб Канстытуцыйным судзе цяпер даюць магчымасць звяртацца ў яго і грамадскім арганізацыям, і грамадзянам з мэтай паказаць і ўхіліць супярэчнасці ў наяўным заканадаўстве.

«Кожны з нас, беларускамоўных, сутыкаўся са стандартнай сітуацыяй: нашым дзецям не даюць вучыцца па-беларуску побач з домам; натарыўс адмаўляецца па-беларуску засведчыць дакумент; у банку патрабуюць пісаць па-руску прозвішча і г. д. Аргументацыя ў чыноўнікаў, што дыскрымінуюць беларускую: «У нас дзве дзяржаўныя мовы». Але ж апошняе павінна азначаць, што акурат грамадзяне выбіраюць мову, а чыноўнік (дзяржава) забяспечвае ім права выбару. Аднак марна шукаць у заканадаўстве адпаведныя тлумачэнні і гарантыі», — распавёў «Свабодзе» сябра Рабочай групы Асамблеі НДА Вінцук Вячорка.

Гары Паганяйла звярнуў увагу, што ад нядаўна не толькі дзяржаўныя органы, але грамадзяне і грамадскія арганізацыі могуць звяртацца ў Канстытуцыйны суд, калі ў законах ёсць прабелы, калізіі ды няпэўнасць. І сам праявіў ініцыятыву, напісаўшы зварот у Канстытуцыйны суд пра нявызначанасць рэальнага статусу беларускай мовы, і заклікаў іншых зрабіць тое самае.

Асамблея няўрадавых арганізацыяў падтрымала справу, бо знявага беларускай мовы баліць шмат каму з актыўных людзей.

Звароты могуць быць як пісьмовыя, так і электронныя. Арганізатары прапануюць дасылаць копіі зваротаў у СМІ, а таксама ў Выканаўчае бюро Асамблеі НДА для прыцягнення шырокай грамадскай увагі.

**Паводле асамблеі НДА і svaboda.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Урад стаміўся

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Некаторыя чыноўнікі ўраду відавочна стаміліся і не вытрымліваюць нагрузкі. Сапраўды, колькі ўжо можна год ад году імкнуцца пераадолець адны і тыя ж «негатыўныя тэндэнцыі». Час у адпачынак альбо на пенсію.**



На гэтым тыдні Аляксандр Рыгоравіч правёў дзіўнае пасяджэнне. Гэта было, як паведамляе ягоная прэс служба, пасяджэнне Савета бяспекі з прысутнымі членамі ўрада, прысвечанае пытанням сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Пры чым тут члены ўрада — зразумела. Але чаму сацыяльна-эканамічным развіццём павінен займацца Савет бяспекі — загадка. Хіба што яны прысутнічалі там як пудзіла для чыноўнікаў: маўляў, вось хто вамі зоймецца, калі вы не зробіце сітуацыю лепшай.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ён хацеў бы атрымаць адказы на некалькі пытанняў. Па-першае, ці атрымалася нам прайсці ніжнюю кропку траекторыі нашага развіцця? Другое — калі адновіцца істотны ўздым эканомікі? І трэцяе — што неабходна зрабіць, каб не паўтарылася зноў сітуацыя, якая прывяла да праблем? «Гэта галоўнае, на што ўрад павінен даць выразны адказ», — заявіў Лукашэнка.

Ён патлумачыў, чаму не правёў абяцаны «разнос урада» па выніках 1-га кварталу гэтага года. Аказваецца, за студзень-красавік 2014 года ВУП краіны вырас крыху больш чым на 1%, таму размова з урадам адкладзеная да вынікаў паўгоддзя. Але павелічэннем ВУП на адзін працэнт Лукашэнка не задаволены, бо гэта не ёсць сістэмным эканамічным ростам. «Гэта павелічэнне атрымана за кошт рознічнага і аптовага гандлю, транспарту і будаўніцтва, завершаны шэраг маштабных праектаў па мадэрнізацыі энергетыкі. Такім чынам, рост ВУП забяспечаны ў асноўным унутраным попытам», — удакладніў ён, і пры гэтым падкрэсліў, што «застарэлыя болькі ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы засталіся».

Паводле яго слоў, у гэтых сферах працягваецца зніжэнне вытворчасці, пагаршаецца фінансавы стан прадпрыемстваў, растуць складскія запасы. «Цяпер важная, кажучы па-ваеннаму, правільная ацэнка сітуацыі з тым, каб, сканцэнтраваўшы сілы на прыярытэтных кірунках, забяспечыць якасны рост эканомікі, павышэнне дабрабыту нашых грамадзян», — падкрэсліў Лукашэнка.

Канешне, дабрабыт грамадзян важны. Трэба стартануць перад 2015 годам, каб было чым пахваліцца перад пятым прэзідэнцкім тэрмінам. А тое мы 20 год пераадольваем адны і тыя ж праблемы, і ніяк не можам кардынальна, раз і назаўсёды іх вырашыць.

**Відавочна, што ўрад, прынамсі ў выказваннях, робіць грубыя памылкі, якія вядуць да няправільнага разумення сітуацыі і, адпаведна, да памылковых рашэнняў па рэагаванні на яе**

Невядома, што адказалі члены ўрада на тры пытанні кіраўніка дзяржавы. Але, мяркуючы па выказваннях міністра эканомікі Мікалая Снапкова, нічога канкрэтнага яны сказаць не здолелі.

На пасяджэнні Саўміна Мікалай Снапкоў выдаў чарговы пастулат, які выразна паказвае на непазбежны фатальны зыход цяперашняй эканамічнай мадэлі «сінявокай». «Мы лічым, што будзе правільна не ставіць у галоўнае рост ВУП, паколькі немагчыма займацца двума сістэмнымі і супярэчлівымі адзін аднаму элементамі эканамічнай палітыкі — інфляцыя і рост. У 2015 годзе для збалансавання сітуацыі ў эканоміцы прыярытэтам, на наш погляд, неабходна вызначыць інфляцыю», — пазначыў пазіцыю Мінэканомікі кіраўнік ведамства. Зыходзячы з гэтага, ён ацаніў тэмп росту беларускай эканомікі ў 2,6% у 2015 годзе.

Што тычыцца інфляцыі, то задача пастаўленая мінулагодняя — дасягнуць 12% на год. Гэта вельмі класна, асабліва калі ўзгадаць, што першапачатковай мэтай на 2014 год было ўтаймаванне інфляцыі да 11%. Гэта значыць, што Снапкоў запланаваў не ўтаймаванне, а рост інфляцыі?

Характэрна, што іншым краінам рэгіёна чамусьці атрымліваецца і забяспечыць рост эканомікі, і запаволіць інфляцыю. У Беларусі ж эканоміка расце толькі на чарговым вітку дэвальвацыйна-інфляцыйнай спіралі. І паколькі беларускі ВУП без разгону інфляцыі ніяк не расце, то раздічваць на рост эканомікі не прыходзіцца.

Карацей, урад стаміўся. Ён не можа адначасова займацца дзвюма рэчамі — і інфляцыяй, і ростам ВУП. Урад бярэцца за ВУП — расце інфляцыя, хапаецца за інфляцыю — падае ВУП. Можа, у такім выпадку, справа ва ўрадзе?

Хаця Снапкоў не стары яшчэ чалавек — яму 55 гадоў і да пенсіі адносна далёка. Ёсць ва ўрадзе і людзі, старэйшыя за яго. І калі ён не можа займацца адначасова ВУП і інфляцыяй, гэта значыць, што ён не на сваім месцы.

Падаецца, не на сваім месцы і Міністэрства фінансаў. Беларускі бюджэт у 2013 годзе склаўся дэфіцытным, прычым дэфіцыт стаўся ў 0,4% ад ВУП. Прычынай жа дэфіцыту бюджэту ў 2013 годзе намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч назваў «калійную вайну» і арышт Баўмгертнера. Паводле яго слоў, дэфіцыт рэспубліканскага бюджэту ў 2013 годзе быў выкліканы праблемамі з экспартам калійных угнаенняў, якія ўзніклі да канца года.

Ермаловіч, мякка кажучы, схлусіў. Ніякіх праблемаў з экспартам калію ў 2013 годзе ў нас не было — пра гэта сведчыць Белстат. Паводле яго дадзеных, экспарт калійных угнаенняў у 2013 годзе знізіўся ўсяго на 6,3% у параўнанні з 2012 годам.

Праблемы бюджэту ўзніклі з-за рашэння Лукашэнкі адмяніць экспартныя пошліны на калій у мэтах падтрымкі горадаўтваральнага прадпрыемства на фоне падзення сусветных цэн на калій, справакаванага развалам картэлю. Экспартная пошліна на калій складала 75–85 еўра за тону, але была адменена з 1 верасня 2013 года, у выніку чаго бюджэт недалічыўся больш за сотню мільёнаў долараў. Таму можна прагназаваць паўтор бюджэтнай праблемы і ў бягучым годзе: экспартная пошліна на калій да гэтага часу не ўжываецца.

Відавочна, што ўрад, прынамсі, у выказваннях робіць грубыя памылкі, якія вядуць да няправільнага разумення сітуацыі, і адпаведна, да памылковых рашэнняў па рэагаванні на яе. «Кажучы па-ваеннаму, правільная ацэнка сітуацыі», як заўважыў Лукашэнка, з такімі падыходамі немагчымая. Гэта значыць, што ўраду час альбо ў адпачынак, каб «прачысціць мазгі» і абстрагавана паглядзець на сітуацыю, альбо ў адстаўку.

Лепшы адпачынак — гэта перамена працы. І было б някепска, каб члены ўрада пайшлі б у будаўнікі, грузчыкі ды на заводы. Можа, тады б яны іначай паглядзелі б на ВУП і інфляцыю?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Уладзімір Канаплёў



**Былы спікер парламента і старшыня Беларускай федэрацыі гандбола Уладзімір Канаплёў адносна лёгка, то бок, без «адсідкі» выйшаў з крымінальнай справы.**

Ваенная калегія Вярхоўнага суда Беларусі абвясціла прысуд па справе ў дачыненні да былога намесніка генеральнага пракурора Аляксандра Архіпава, і былога спікера ніжняй палата беларускага парламента Уладзіміра Канаплёва.

Архіпаў прызнаны вінаватым у злоўжыванні ўладай і атрыманні хабару, і атрымаў 6 год калоніі ўзмоцненага рэжыму. Канаплёў прызнаны вінаватым у неданясенні аб злачынстве, і яму прызначаны штраф у памеры 900 базавых велічынь (135 мільёнаў беларускіх рублёў). Прысуд уступіў у сілу з моманту яго абвяшчэння і не падлягае абскарджанню ў касацыйным парадку.

Справа намесніка генеральнага пракурора Леаніда Архіпава першапачаткова замоўчвалася, бо ў ёй фігураваў чалавек, які сам павінен быў сачыць за законнасцю. Першым пра яе паведаміў Лукашэнка ў лістападзе 2013 года: «Дружкі там яго уцягнулі ў гэтую афёру, чалавека забілі, п'яны кіроўца. Не важна, якія ў іх там былі адносіны, але чалавек загінуў. Уявіце, як рэагуе на гэта сям'я. З дапамогай улады гэту справу замялі. Што падумаюць людзі, сям'я? Падумаюць, што ў нас улады няма? Дзе справядлівасць? Таму пракантралюйце, якія прымаюцца меры».

## Уладзімір Пугач



**Адзіны асобнік зборніка рарытэтаў «Фотаздымкі 2003–2014» беларускага гурта «J:морс», лідарам якога з'яўляецца Уладзімір Пугач, прададзены на адкрытым інтэрнэт-аўкцыёне за 23 мільёны 525 тысячаў рублёў.**

Калектыў «J:морс» выставіў на таргі адзіны асобнік дыска, каб сабраць грошы на лекі і дэльфінатэрапію для шасцігадовага Стаса Кірылава, які нарадзіўся са шматлікімі паталогіямі. Стаса і ягонага старэйшага брата выхоўвае толькі маці, бацька ад іх сышоў. Сям'я жыве на сціплую дапамогу ў 2,8 мільёна рублёў у месяц; з-за неабходнасці пастаяннага дагляду за Стасам маці не можа працаваць.

Дабрачынны аўкцыён у дапамогу хвораму дзіцяці — гэта не першы падобны праект музыкаў, паведаміў лідэр «J:морс» Уладзімір Пугач. «Кожны раз для нас было прынцыпова важным не ўключацца ў абстрактную, абязлічаную дабрачыннасць, словам, у дабрачыннасць як у бізнэс. Заўсёды хочацца дапамагчы канкрэтнаму чалавеку, тады ты зможаш потым пераканацца, што чалавек атрымаў гэтую дапамогу», — сказаў ён. «Мы даўно хацелі выпусціць дыск сваіх рарытэтаў, бі-сайды (матэрыял, які не ўвайшоў у альбомы). Зрабілі гэта, і падумалі, што мае сэнс заадно паспрабаваць камусьці дапамагчы. Мы з хлопцамі абралі Стаса», — дадаў Пугач.

Дыск выкуплены ад імя беларускай кампаніі Digital Gravitation, якая займаецца распрацоўкай мабільных прыкладанняў.

## Наталля Зверава



**Савет дырэктараў Міжнароднай федэрацыі тэніса ўхваліў кандыдатуру беларускай тэнісісткі Наталлі Зверавай на ўзнагароду ITF «За заслугі перад гульнёй».**

Прыз будзе перададзены прадстаўнікам РГА «БТФ» падчас штогадовай Генеральнай канферэнцыі, якая пройдзе з 16 па 18 верасня ў Дубаі.

Наталля Зверава — заслужаны майстар спорту СССР (1991). Уладальніца найбольшай колькасці тытулаў (20) на турнірах Вялікага шлема (ва ўсіх разрадах) сярод тэнісістаў з экс-СССР. Займала першы радок у жаночым парным рэйтынгу ў суме 124 тыдні, упершыню ўзняўшыся на яго 7 кастрычніка 1991 года ва ўзросце 20 гадоў. 36 разоў гуляла ў фіналах турніраў Вялікага шлема ў адзіночным, парным і змяшаным парным разрадах. Удзельніца 4 Алімпіяд — 1988, 1992, 1996 і 2000. Бронзавы прызёр летніх Алімпійскіх гульняў 1992 года ў парным разрадзе (з Лейлай Месхі).

У 2010 годзе ўключана ў спісы Міжнароднага залы тэніснай славы. У 2014-м Наталлі Зверавай уручана ўзнагарода Tennis Europe за ўклад у развіццё спорту.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Рэквіем па мадэрнізацыі

**Апора на традыцыйныя каштоўнасці азначае фактычны пераход да палітыкі ізаляцыі ад Захаду.**

Сяброў беларускай дзяржавы можна пералічыць па пальцах адной рукі. «Наша Расія», натуральна, па-за канкурэнцыяй. Што да беларускага грамадства, то яшчэ год таму колькасць жадаючых уступіць у Еўрасаюз перавышала колькасць прыхільнікаў аб'яднання з Расіяй: 42% vs. 37% (НІСЭПД). Аднак пасля таго, як *«в Россию, к себе на Родину, возвратились Крым и Севастополь»*, і расіян ахапіў *«особый душевный подъем»* (Пуцін), геапалітычныя прыхільнасці беларусаў ссунуліся на Усход: 33% vs. 52%.

Такое істотнае змяненне лішні раз падкрэслівае, што грамадскай думкі (у заходнім разуменні) у Беларусі як не было, так і няма. А тое, што сацыёлагі фіксуюць у ходзе нацыянальных апытанняў, ёсць толькі рэха медыйных падзей.

*«Особый душевный подъем»* расіян утрымліваецца ўжо на працягу трох месяцаў. Пакуль ён не пайшоў на спад, прапаную прыглядзецца да дзяржавы, з якой нам жыць у ЕАЭС.

## «Асаблівы шлях» і «свая каляіна»

«Ледзь куксы пасля белавежскіх ампутацый зажылі, пратэзы прыцэрліся, і трэба ж — зноў барацьба за глобус!» Гэта я цытую былога крамлёўскага паліттэхнолага Глеба Паўлоўскага.

Барацьбу за глобус Расія вяла з часоў Васіля III (пачатак XVI стагоддзя). Нездарма ж ён ажаніўся з пляменніцай (і як бы спадчынніцай) апошняга візантыйскага імператара Соф'яй Палеолаг і запазычыў у Візантыі двухгаловага арла. Без такіх фармальнасцяў різлічваць на паспяховае прасоўванне месіянскай ідэі «Масква — Трэці Рым» было б складана.

Ці мала хто ў гісторыі назваў і працягвае называць сябе імператарам. Як тут ні прыгадаць аднаго з самых эксцэнтрычных дыктатараў XX стагоддзя, афрыканскага імператара-людажэра Бакаса I. Аднак сапраўдная імперыя — гэта заўсёды спроба рэалізаваць на зямлі тэакратычны праект. Вялікія князі Масковіі і расійскія імператары бачылі сваю місію ў прасоўванні праваслаўя. Іх савецкія спадкаемцы, перакадаваўшы абраны народ у абраны сацыяльны клас, спрабавалі зацвердзіць камунізм у сусветным маштабе.

Чым ганарацца расіяне? Па дадзеных «Лявада-цэнтра», у першую чаргу вялікай тэрыторыяй і гераічным (мілітарысцкім) мінулым. У такіх крыніц гонару існуе свая фундаментальная прычына. Прывяду яе ў выкладанні сацыёлага Эміля Паіна: «Трыста гадоў Расія жыве гандлем сваімі прыроднымі рэсурсамі. Толькі раней прадавалі лес і пяньку, а цяпер — нафту і газ. Калі краіна гандлюе рэсурсамі, то трымаецца каштоўнасць імперыі, таму што пры рэсурснай дзяржаве імперская тэрыторыя — галоўны рэсурс».

Цяжка спрачацца з мэтрамі, тым не менш я вазьму на сябе смеласць заявіць, што час барацьбы за глобус для Расіі застаўся ў мінулым. Максімум, на што яна можа сёння разлічваць, гэта на фармаванне «Рускага свету».

Усе мінулыя тэакратычныя праекты былі ўніверсальнымі. Інакш яны не маглі прэтэндаваць на заваяванне глобуса (любая тэакратычная імперыя заўсёды імкнецца стаць сусветнай). Але тое, што сёння заяўляе Крэмль, на ўніверсальнасць не прэтэндуе. Расія ўстае з каленяў дзеля рэалізацыі лакальнага праекта, цэнтральным элементам якога з'яўляюцца ідэі «асаблівага шляху» і «сваёй каляіны». На прасоўванне такіх ідэй за межы віртуальнага «Рускага свету» сёння сур'ёзна не разлічваюць нават іх аўтары.

## Сумленны, бескарыслівы, цнатлівы

16 мая 2014 года на сайце kremlin.ru быў апублікаваны праект Асноў дзяржаўнай культурнай палітыкі, падрыхтаваны рабочай групай на чале з кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Сяргеем Івановым. Мэта дакумента — абгрунтаванне культурнай унікальнасці Расіі.

Пачну з першага сказа першага абзаца: «Расія — дзяржава, якая стварыла вялікую культуру». Вялікую еўрапейскую культуру стварылі еўрапейскія народы. Вялікую рускую культуру — дзяржава. Адчуваеце розніцу? «Гэта ўласцівасць расійскай культуры (г.зн. яе вытворнасць выключна ад дзяржавы — С.Н.) становіцца вызначальнай для будучыні краіны».

Як тут ні прыгадаць Мусаліні: «Усё ў дзяржаве, нічога па-за дзяржавай і супраць дзяржавы». У гэты ўсёахопны пералік крамлёўскія ідэолагі ўнеслі і культуру, тым самым правёўшы мяжу паміж традыцыйным рускім і сучаснымі нярускімі светамі.

Яшчэ адзін абзац, запазычаны з уступнай часткі дакумента: «Па-за культурай немагчыма забяспечыць больш высокую якасць грамадства, яго здольнасць да грамадзянскага адзінства, да вызначэння і дасягнення агульных мэтаў развіцця. У роўнай ступені немагчыма зацвярджэнне агульнанацыянальнай ідэалогіі развіцця без фарміравання маральнай, адказнай, самастойна думаючай, творчай асобы».

Здавалася б, якія тут могуць быць пярэчанні? Але мы яшчэ не паспелі забыцца, што пад культурай аўтары дакумента разумеюць выключна «прадукт» дзяржаўнай чаканкі. Такім чынам, і на ілбах самастойна думаючых, творчых асоб павінна стаяць адпаведнае кляймо.




Дзяржаўную культурную палітыку прапануецца выбудоўваць «на аснове традыцыйных для Расіі маральных каштоўнасцяў». Іх пералік увасакрашае ў памяці памятку для кіраўніка акцябрацкай зорачкі: «Гэта, перш за ўсё, сумленнасць, праўдзівасць, законапаслухмянасць, любоў да Радзімы, бескарыслівасць, непрыманне гвалту, крадзяжу, паклёпу і зайздрасці, цнатлівасць, добрае сэрца і міласэрнасць, вернасць слову, шанаванне старэйшых, павага сумленнай працы».

Але не ўсё так безнадзейна. Расійскія базавыя каштоўнасці з'яўляюцца аб'ектам параўнальнага міжкраінавага аналізу цэлага шэрагу навуковых калектываў. Для газетнага артыкула цалкам хопіць высноў сацыёлага Уладзіміра Магуна.

Сярэдні расіянін, у параўнанні з жыхарамі большасці іншых еўрапейскіх краін, высока цэніць бяспеку і абарону з боку моцнай дзяржавы. Ён слабейшы прыхільнік каштоўнасцяў навізны, творчасці, свабоды і самастойнасці і менш цэніць рызыку, весялосць і задавальненні. У той жа час сярэдні расіянін у большай ступені аддадзены каштоўнасцям багацця і поспеху, што, аднак, не спалучаецца з гатоўнасцю дзейнічаць па-новаму, ісці на рызыку і прымаць самастойныя рашэнні.

Сярэдняга расіяніна характарызуе нізкі ўзровень альтруізму і гатоўнасці супрацоўнічаць пры адначасова высокай арыентацыі на індывідуалізм. І ў заключэнне прамая цытата: «Трывожным фактам з'яўляецца таксама параўнальна нізкая прыхільнасць расіян каштоўнасцям Адкрытасці зменам і, наадварот, моцная арыентацыя на Захаванне. Гэта сур'ёзны культурны бар'ер на шляху развіцця інавацыйнай эканомікі, дый на шляху грамадскага развіцця ў цэлым».

## Знаёмая схема

Папярэдняя «Азбука паліталогіі» («НЧ» № 22 ад 16 чэрвеня) была прысвечана смерці канцэпцыі сацыяцэнтрызму, згодна з якой ва ўзаемаадносінах грамадства — асоба прыярытэт належыць грамадству.

Крамлёўскі дакумент спрабуе сацыяцэнтрызм ажывіць, уключыўшы «прыярытэт права грамадства на захаванне матэрыяльнай і нематэрыяльнай культурнай спадчыны Расіі перад маёмаснымі інтарэсамі фізічных і юрыдычных асоб» у лік базавых прынцыпаў дзяржаўнай культурнай палітыкі.

Але падтрымліваючы культуру, дзяржаве неабходна памятаць і пра падтрымку аўтараў Асноў дзяржаўнай культурнай палітыкі. З гэтай мэтай прапануецца сфармаваць суб'ект, які выпрацоўвае, кардынуе, карэктуе дзяржаўную культурную палітыку. Суб'ект варта надзяліць «дастатковымі правамі для пераадолення бар'ераў міжведамаснага і міжрэгіянальнага ўзроўню, неабходнымі (як жа без гэтага!) кадравымі і фінансавымі рэсурсамі».

Знаёмая схема. Хочаш атрымаць права на распілоўванне бюджэту, — пераканай кіраўнікоў дзяржавы ў з'яўленні новай пагрозы іх асабістай бяспекцы і прапануй стварыць структуру для яе ліквідацыі.

## Арыентацыя на самазахаванне

Словы «традыцыя» і «традыцыйны» шчыльна і раўнамерна размеркаваныя па ўсім дакуменце. Без апоры на мінулае (слаўнае імперскае мінулае) неабходнасць руху ў звыклай каляіне не абгрунтаваць. «Краіны, якія былі цэнтрамі імперый, — адзначае эканаміст Аляксандр Аузан, — знаходзяцца ў пакутлівым становішчы — мара пра будучыню скаваная поспехамі мінулага».

Бальшавікі малявалі карціну светлай будучыні ўпэўненымі мазкамі. Яны марылі «дагнаць і перагнаць Амерыку» за кошт ператварэння Расіі сялянскай у Расію індустрыяльную. Задача па перасяленні сялян у гарады на будаўніцтва індустрыяльных гігантаў была бліскуча вырашана (сёння каля 74% насельніцтва Расіі пражывае ў гарадах), але дагнаць і перагнаць Амерыку бальшавікі так і не змаглі.

Іх пераемнікі, не здолеўшы сфармуляваць чарговы тэакратычны праект, вымушаны былі паставіць крыж і на спаборніцтве "дзвюх сістэм" у эканамічнай сферы. Зноў звярнуся па дапамогу да Эміля Паіна: «Расія, мабыць, упершыню за тры стагоддзі свайго развіцця, адмовілася ад стратэгіі мадэрнізацыі, што даганяе, якую яна праводзіла, пачынаючы з часоў Пятра І. Яна перастала спаборнічаць з Захадам. Расійскі істэблішмэнт, арыентаваны толькі на самазахаванне, прызнаў сваё адсталае становішча ў свеце. І гэта значна спрасціла яе фактычны пераход да палітыкі ізаляцыі ад Захаду».

Але вырашаць задачу па самазахаванні лепш у калектыве, а не ў адзіночку. З гэтай мэтай і перахапіў расійскі прэзідэнт у свайго беларускага калегі інтэграцыйную ініцыятыву. З 1 студзеня 2015 года ўсім нам трэба будзе жыць у Еўразійскім эканамічным саюзе. Яго культурная спецыфіка, на думку ініцыятара, заключаецца ў тым, што «пераважная большасць нашых грамадзян схільныя абапірацца на свае гістарычныя традыцыі, на сваю гісторыю і, калі можна так сказаць, на традыцыйныя каштоўнасці».

Асабіста мне з пераліку традыцыйных каштоўнасцяў бліжэй за ўсё цнатлівасць (маральная цнота, якая азначае кантроль сэксуальных жаданняў). Мая рэлігійнасць тут не пры чым. На сёмым дзясятку для эфектыўнага кантролю сэксуальных жадання асаблівых намаганняў і не патрэбна.

# Паўкроку да дэфолту

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Натхнёныя поспехам забароны замежнага піва падчас ЧС па хакеі ў Мінску, беларускія чыноўнікі плануюць перанесці гэты досвед на ўсю краіну і на ўсе тавары. Але такое рашэнне, калі яно будзе прынятае, пагражае абвалам валютнага рынку, паўторам 2011 года і дэфолтам эканомікі.**




## Імпарт — гэць!

Беларускія ўлады разглядаюць магчымасць з 1 ліпеня ўвесці выключнае права дзяржавы на ўвоз тавараў, аналагі якіх вырабляюцца на тэрыторыі рэспублікі, — то бок, фактычна замарозіць імпарт. Як патлумачылі ў Міністэрстве прамысловасці, праект дакумента накіраваны на падтрымку беларускіх вытворцаў прамысловых тавараў, а таксама на скарачэнне спажывецкага імпарту.

Інстытут спецімпарцёра, які плануецца ўвесці з 1 ліпеня, стане паўгадавым эксперыментам, падчас якога беларускія ўлады хочуць вывучыць уплыў мер нетарыфнай абароны мясцовых вытворцаў на зніжэнне спажывецкага імпарту. «Паглядзім, наколькі меры будуць эфектыўнымі ў плане зніжэння спажывецкага імпарту, павышэння цікавасці да айчыннай прадукцыі», — паведамілі БелТА ў Мінпраме.

То бок, чарговае глупства: «давайце што-небудзь прыдумаем, а потым паглядзім, ці будзе яно працаваць». Гэта было б даравальна, калі б такія эксперыменты не ставіліся б на людзях.

## А суддзі хто?

Згодна з праектам дакумента, статус спецімпарцёра тэрмінам на паўгода будзе прадастаўлены 12 прамысловым прадпрыемствам: «МАЗ», МТЗ, «Белшына», «Гарызонт», «Атлант», «Гомсельмаш» і некаторым іншым.

МТЗ будзе выступаць спецімпарцёрам сельгастэхнікі і абсталявання, «Гомсельмаш» — камбайнаў, «Гарызонт» — бытавой тэхнікі, радыё-, тэле- і відэаапаратуры, «Атлант» — халадзільнікаў і пральных машын. МАЗу будзе прадастаўлена выключнае права ўвозу ў Беларусь усіх аўтамабіляў, у тым ліку легкавых, як з краін далёкага замежжа, так і з Расіі, і Казахстана.

Варта заўважыць цікавую дэталь: спецімпарцёрамі становяцца наўпроставыя канкурэнты замежных вытворцаў. Зразумела, гэтыя канкурэнты зацікаўленыя не ў тым, каб на паліцах крамаў быў разнастайны выбар прадукцыі і цэнавая канкурэнцыя, а наадварот, каб канкурэнцыі іх таварам увогуле не было. А калі няма канкурэнцыі, то і кошты можна ўсталёўваць якія заўгодна, і на якасць плюваць: калі зламалася, напрыклад, лядоўня, то ўсё роўна іншай маркі на рынку не будзе, прыйдзецца набываць такую ж.

Ладна, яшчэ тэлевізары: паканкуруюць віцебскі «Віцязь» і мінскі «Гарызонт». Хай сабе «Гомсельмаш» з «Лідсельмашам» на рынку сутыкнуцца, тут выбар ёсць хаця б з двух. Але што тычыцца лядоўняў і пральных машынаў, то вытворца ў нас адзін — «Атлант». Шыны ў нас стварае толькі «Белшына», а МАЗ займаецца выключна грузавікамі. У выніку на паўгады беларускія прадпрыемствы становяцца манапалістамі на рынку.

## Дэфіцыт

Цікава, уводзячы статус «спецімпарцёра», хто-небудзь запытаўся ў таго ж «Гарызонта» альбо «Атланта», ці здолеюць яны задаволіць попыт насельніцтва на сваю прадукцыю, калі не будзе іншай? Асабліва ў сённяшняй сітуацыі, калі шмат у каго «накрыліся» планы па адпачынку ў Крыме, і з'явілася дастаткова багата «вольных грошай», якія збіраліся на гэты адпачынак, а зараз могуць быць скіраваны на буйныя пакупкі?

Сітуацыя з «піўной забаронай» тут паказальная. Канешне, улада пляскае ў ладкі: піўзаводы «падняліся», імпарт украінскага піва шляхам увядзення ліцэнзавання амаль спынены, трэба працягваць у тым жа рэчышчы! Але, напрыклад, у сегменце безалкагольнага піва — папросту правал. Беларускага безалкагольнага толькі два гатункі — «Златы базант» ды «Лідскае 0». У выніку забароны зараз безалкагольнае цяжка знайсці на паліцах у крамах. Асабліва гэта тычыцца прадукцыі ў бляшанках. То бок, скарацілі імпарт — атрымалі дэфіцыт у немалым сегменце рынку.

Цікавая зараз сітуацыя з МАЗам, якому плануецца даць статус «спецімпарцёра» прадукцыі, якая ўвогуле серыйна ў Беларусі не ствараецца. А канкрэтна — імпарт легкавікоў. Гэта значыць, што ўсе аўтасалоны і фірмовыя цэнтры павінны будуць працаваць праз МАЗ. Маючы такую манаполію на рынку, можна спыняць вытворчасць і займацца выключна аўтагандлем. Калі ўсе легкавікі праходзяць праз аднаго пастаўшчыка, да таго ж дзяржаўнага, — самі ведаеце, да чаго гэта прыводзіць.

## Па шляху да 2011-га

Такая «забарона на імпарт» можа дзейнічаць толькі ў краінах з закрытымі межамі, — як у СССР. У нас межы адкрытыя і дазволеныя купля і продаж валюты.

У выпадку падпісання гэтага ўказа краіна сутыкнецца з праблемамі, якія мы бачылі ў 2011 годзе: народ кінецца скупляць валюту і паедзе за таварамі ў Еўропу ці ў суседнюю Расію. У 2011 годзе Аляксандр Рыгоравіч тлумачыў, што людзі ездзілі скупаць аўто, пакуль мытная пошліна не падвысілася да ўзроўню расійскай. Зараз жа людзі паедуць за аўтамабілямі, таму што ў Беларусі іх проста не будзе.

У мяне ёсць знаёмыя, якія падчас «піўнога эмбарга» ездзілі «на піва» ў Вільню. Але колькі яны там пакінулі грошай? Аўтамабілі — гэта вам не бляшанкі з півам. Тут размова ідзе пра вываз сотняў тысячаў, калі не мільёнаў долараў. І ўсё гэта будзе маленькімі ручайкамі перацякаць праз мяжу, тым больш, што з Расіяй у нас яе фактычна няма. А заводаў, якія ствараюць там аўто сусветных брэндаў — дзясяткі.

## Такім чынам

Эксперымент па «замарозцы імпарту» можа прынесці за сабою даўно забыты ў Беларусі «дэфіцыт» і выклікаць адток валюты з краіны ў значным памеры, што, безумоўна, адаб'ецца на золатавалютных рэзервах Беларусі.

ЗВР у нас па стане на 1 чэрвеня — 5,4 мільярда долараў. Па знешніх міжнародных пазыках мы ў гэтым годзе павінны аддаць тры мільярды. Любы «эксперымент», які можа адбіцца на валютным рынку, у такіх варунках з'яўляецца неапраўданай рызыкай і можа прывесці да таго, што новы год мы сустрэнем з «нулявым» ЗВР і — прывітанне, дэфолт!

---

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Бульба, свінні і новая рэчаіснасць



**Паведамляюць, што за тры месяцы бягучага года беларускія імпарцёры завезлі 2,9 тысячы тон бульбы з-за мяжы. У 2,4 разы болей, чым за аналагічны перыяд мінулага года.**

З гэтай нагоды людзі пытаюцца: куды ж падзелася беларуская бульба? Мусіць, ляснула ўрадавая праграма адраджэння вытворчасці «другога хлеба», на экспарце якога ўлады збіраліся зарабіць некалькі мільярдаў долараў?

Калі праблему разглядаць рэтраспектыўна, то раней перад бульбаводамі былі дзве галоўныя цяжкасці. Першая — бульбу выкапаць, другая — захаваць яе да новага ўраджаю.

З копкай на калгасных палях давалі рады студэнты ды супрацоўнікі розных НДІ. І пакуль гараджане корпаліся на калгасных палетках аж да самых «першых мух», прыватнікі паспявалі не толькі выкапаць, але і перабраць, падсушыць, каб бульба не загніла ў склепах. Прыватніцкая бульба амаль не губляла сваёй якасці, у адрозненні ад дзяржаўнай.

Зразумела, што раней бульбу з-за мяжы не завозілі. Таму якасную прадукцыю насельніцтва купляла на так званых калгасных рынках, хаця яна і каштавала больш. Як зараз імпартная.

Згодна з афіцыйнай статыстыкай, у 1986 годзе валавы збор бульбы склаў 13,4 мільёна тон, у тым ліку ў гаспадарках насельніцтва 6,14 мільёна тон. У мінулым годзе ва ўсіх відах гаспадаркі выкапалі 5,9 мільёна тон бульбы, з якіх сельскагаспадарчыя арганізацыі набралі толькі 0,9 мільёна тон. Гэта складае 73,3% ад аб'ёму вытворчасці ў 2012 годзе.

Зразумела, і летась, і пазалетась вытворчасць у арганізаваным сектары скарачалася, але не настолькі ж, каб гэтае падзенне можна было спісаць на дрэннае надвор'е.

Але спецыялісты лічаць, што беларусы развучыліся вырошчваць бульбу. Таму перш, чым павялічваць вытворчасць, трэба на некалькі год зусім кінуць гэту справу, каб аднавіць былы спрыт і досвед.

Ёсць аб'ектыўныя высновы, якія не дазваляюць наладзіць экспарт бульбы хоць у тую ж Расію. Бо бульба застаецца паранейшаму працаёмістай, гэта значыць, дарагой і малаякаснай. Значыць, неканкурэнтнай.

Насуперак усяму Лукашэнка з Мясніковічам мараць пра Вялікую Беларускую Бульбу, ім марыць не забароніш. Хай, каб толькі грошы ў зямлю не закапвалі.



Але галоўная аб'ектыўная прычына скарачэння вытворчасці бульбы — гэта змены ў структуры жывёлагадоўлі. Раней на долю ялавічыны прыпадала 48%, на свініну — 40%, на птушку — 12% ад агульнай вытворчасці мяса. Зараз структура вытворчасці выглядае так: ялавічына — 37%, свініна — 29%, птушка — 34%. А птушкі бульбу не ядуць.

У гэтым сэнсе можна пагадзіцца з любым адукаваным марксістам XIX стагоддзя, які б сказаў, што часам звычайная свіння робіць больш для эканомікі, чым кожны прэм'ер-міністр ці нават прэзідэнт. Бо пакуль гэтыя дзеячы корпаюцца «ў надбудове», свіння па-рэвалюцыйнаму падрывае «базіс», на які валіцца палітычная сістэма, пасля чаго адбываецца сацыяльная рэвалюцыя.

Ці контррэвалюцыя. Каму што падабаецца. У 1986 годзе, калі калгасная вытворчасць перажывала пік свайго развіцця, яе свіны статак налічваў 3,6 мільёна галоў, насельніцтва мела ў хлеўчуках 1,5 мільёна. У апошнія гады колькасць свіней у арганізаваным сектары ўсталявалася на ўзроўні трох мільёнаў галоў.

А вось пасля эпідэміі свіной чумы статак зменшыўся прыкладна на 0,5 мільёна галоў. Прычым тэндэнцыя захоўваецца. За мінулы год у асобных раёнах свінаводства вынішчана. А там, дзе закрываюцца калгасныя фермы, папярэдне знішчаецца прыватніцкі статак.

Зразумела, калі зводзяць скаціну, то аўтаматычна зменшаюцца плошчы пад бульбу. Звядуцца свінні, каму спатрэбіцца тая бульба? Бо свіння — гэта не проста жывёліна, гэта, не пабаюся параўнання, вышэйшая істота, якая некалі стварыла беларускае сялянства. Свіння выжыла пры калгасах, ратавала людзей ад галоднай смерці.

А зараз гіне ўсё — свінні, бульба, людзі. Ствараецца новая рэчаіснасць — маргінальная.

# Музыка супраць смяротнай кары

Сяргей ПУЛЬША

**Шэраг вядомых беларускіх музыкаў выказаліся супраць смяротнага пакарання. І атрымалі ў выніку ўнікальны для Беларусі праект. Прэзэнтацыя «Апошняга золку» прайшла ў клубе «Графіці» 17 чэрвеня.**




## «Апошні золак»

Нагадаем, што «Апошні золак», над якім працавалі Ганна Хітрык, Аляксандр Памідораў, Зміцер Вайцюшкевіч, Наста Шпакоўская, Віктар Рудэнка і Лявон Вольскі, напачатку быў сумесным «анлайн-канцэртам». Канцэрт стаў прадаўжальнікам традыцый супольных праектаў, закладзеных у свой час «Народным альбомам», «Я нарадзіўся тут», «Святым вечарам». Толькі гэтым разам праект быў прысвечаны не забаўкам, а сур'ёзнай праблеме адмены смяротнай кары.

У межах праекта беларускія выканаўцы прадставілі свае песні, у якіх распавялі пра асноўныя спосабы прывядзення ў выкананне выключнай меры пакарання. Палова з 14 песень былі новымі кампазіцыямі, другая палова — вядомыя песні, але ў новых версіях. 5 кастрычніка мінулага года ў Варшаве музыкі выйшлі на сцэну, дзе не было гледачоў. Гледачы сядзелі ў інтэрнэце і ў анлайне глядзелі гэты канцэрт. Яго паказвалі tut.by, naviny.by, nn.by, euroradio.fm, svaboda.org, spring96.org.

Такі канцэрт для інтэрнэт-аўдыторыі Беларусі праходзіў упершыню.

Першапачаткова планавалася гэтым і абмежавацца, але каардынатару праекта Сяргею Будкіну падалося гэтага недастаткова. І зараз на дысках выйшла фінальная версія праекта. Відэа перамантажавалі, мастачка Наста Шастак наноў стварыла своеасаблівыя кліпы на песні маляваннем па пяску. Быў дапрацаваны і перазапісаны аўдыёматэрыял, дадалося відэа іншых вядомых людзей і музыкаў, якія запісвалі відэазвароты супраць смяротнага пакарання. І атрымалася ўнікальнае выданне.

Па-першае, унікальнае тым, што сумяшчае ў сабе CD і DVD, а па-другое (чаго ў Беларусі яшчэ ніхто не рабіў), з'явіўся мультыракурсны DVD. Гэтая тэхналогія дазваляе абіраць крыніцу відэасігналу. То бок, калі хочаш — глядзі канцэрт. Калі не хочаш канцэрту — можаш паглядзець кліпы з пясочнага шоў.

## Ну, хаця б так...

Зразумела, падчас прэс-канферэнцыі музыкі не маглі абыходзіць бокам тэму смяротнага пакарання. Усе яны ўжо выказаліся супраць ягонага прымянення, але, як адзначылі амаль усе, і працаваць над праектам было цікава.

Віктар Рудэнка паведаміў, што ён не першы раз піша песні на замову. «Але гэтым разам мне прыемна, што замова была менавіта такой. Мы ведаем, якія песні замаўляюць для напісання ў Беларусі. Як музыка, не вельмі часта думаеш пра такую праблему, не асэнсоўваеш яе. А тут цікава было пасядзець і падумаць, і атрымаўся цэлы шэраг, я лічу, файных кампазіцый», — сказаў музыка.

Наста Шпакоўская адзначыла, што тэма, якая была паднятая ў праекце, «для кожнага адэкватнага і думаючага чалавека неабыякавая». «Мне падаецца, што гэта справа творцаў — сваёй творчасцю змяняць свет. І гэта была тая магчымасць, калі людзі, дзякуючы свайму таленту, могуць даць надзею, што гэты свет можа стаць лепш», — лічыць спявачка.

«На жаль, я разумею, што гэты праект не зменіць заканадаўства Беларусі, але я разумею, што я зрабіла хоць штосьці, каб смяротнай кары ў Беларусі не было», — цвяроза ацаніла сітуацыю Наста.

Зміцер Вайцюшкевіч таксама заўважыў, што тэма для працы была актуальнай і складанай. «Але мне падабаецца працаваць над складанымі тэмамі, бо свет жыве фарматам прыемных забавак. Усім хочацца бавіцца, ніхто не хоча размаўляць пра смерць, пра сур'ёзныя рэчы. Мне было цікава. Калі мы хоць паўтара чалавека звернем увагу на гэтую праблему — гэта ўжо нямала для жыцця аднаго артыста», — адзначыў Вайцюшкевіч.

А вось Аляксандр Памідораў прызнаўся, што ён не можа сказаць, што ён цалкам падтрымлівае ідэю адмовы ад смяротнай кары. «Але тут трэба разбірацца. З нашым заканадаўствам мы ўсе ў групе рызыкі. Мы ніяк не застрахаваныя ад таго, што ты не вінаваты, але будзеш абвінавачаны і атрымаеш пакаранне смерцю, як гэта ўжо неаднойчы было ў гісторыі. Нават і сучасны, калі людзі проста гінулі ў турмах, а потым высвятлялася, што яны невінаватыя. На гэтым маім стаўленні палягае мой удзел у гэтым праекце», — адзначыў Памідораў.

Яму спадабалася, па ягоных словах, што гэты праект, па-першае, меў дакладную ідэю, а па-другое, у ім «сапраўды панаваў калектыўны дух». «Ён рэалізаваны ў нармальныя тэрміны. Бо апошні супольны праект, які мы рабілі ў 2004 годзе, так і не выйшаў. Нягледзячы на тое, што кожны пісаў і выконваў сваю песню, падчас канцэрту ў нас было адчуванне, што вярнуўся час лёгкай эйфарыі, калі была прэм'ера «Народнага альбому» ці «Святога вечара». Нейкая панавала супольная свядомасць, гэта было вельмі файна», — адзначыў Памідораў.



Валянцін Стэфановіч і Сяргей Будкін думаюць над працягам праекту

Дарэчы, рэжысёрам-пастаноўшчыкам канцэрту быў Павел Бандзіч, вядомы па стужцы «Сэрца за кратамі», якая перамагла ў намінацыі «Лепшы публіцыстычны фільм» на фэсце «Залаты бубен» у Ханты-Мансійску. «Для мяне важным было звярнуцца да гісторыі гэтай праблемы. Смяротнае пакаранне існавала заўсёды, і нічога не змяніла ў адносінах людзей. Тое, што яно існуе зараз — таксама нічога не змяняе. Яно не выпраўляе людзей, і яго існаванне непатрэбнае ні ў якім сэнсе. Трэба ўжо адмовіцца ад смяротнага пакарання. І мы павінны быць застрахаваныя ад ілжывага абвінавачвання і быць спакойнымі за сваё жыццё», — адзначыў Бандзіч.

## І яшчэ раз пра ўнікальнасць

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч адзначыў, што гэты праект увойдзе ў гісторыю яшчэ і дзякуючы таму, што ўпершыню ў Беларусі музыкі стварылі такі супольны канцэрт і супольны альбом, прысвечаны адмове ад смяротнай кары.

«Дастаткова шмат вядома музычных праектаў такога кшталту за межамі Беларусі, а ў нас такога альбо не было, альбо не было так шмат. І для мяне важна было пачуць такое творчае і філасофскае асэнсаванне гэтай тэмы. І мне запомніліся словы Ганны Хітрык, якая казала, што ўсе мы абсалютна псіхічна здаровыя, свядомыя людзі, не дэкласаваныя алкаголікі, але мы сядзім і вырашаем, жыць чалавеку ці не жыць. У такім разе грамадства нічым не адрозніваецца, не мае маральнай перавагі над тым, каго яно забівае. А мы мусім мець гэтую маральную перавагу, таму што мы людзі. І я дзякую зараз музыкам, якія выказалі свае думкі на гэтую вельмі складаную тэму», — сказаў Стэфановіч.

## Суддзі пакуль маўчаць

Канешне, цікава, як слухачы і прыхільнікі музыкаў паставіліся да іх удзелу ў падобным праекце. Ці стала больш прыхільнікаў адмены смяротнага пакарання, альбо іх аўдыторыя вырашыла, што яны «ўлезлі не туды»?

Аляксандр Памідораў адзначыў, што рэакцыю публікі музыкі, пэўна, адчуюць пасля распаўсюджвання дыскаў, бо, фактычна, песні супраць смяротнага пакарання прагучалі толькі адзін раз — падчас анлайн-канцэрту 5 кастрычніка. «Канцэртнае відэа можна было паглядзець



**Аляксандр Памідораў:**
**«Я не магу сказаць, што цалкам падтрымліваю ідэю адмены смяротнай кары»**

пэўны час у інтэрнэце. Зараз мы маем дакладны канцэртны запіс і дакладны студыйны варыянт. Розгалас, можа быць, пойдзе толькі зараз. Варта зазначыць яшчэ і тое, што тут мы выступалі не гуртамі — гэта ўсё ж праект выканаўцаў, і нават старыя песні тут гучаць па-іншаму», — лічыць Памідораў.

Зміцер Вайцюшкевіч з ім не пагадзіўся: «Рэакцыя была, і досыць неслабая. Збольшага негатыўная, калі навіна пра канцэрт усё ж пайшла. Кшталту таго, што: «Вольскі, куды ён палез, я яго слухаць больш не буду», і ўсё такое. У мой адрас таксама шмат было сказана... Таму, канешне, тэма складаная. І я вяртаюся да свайго тэзісу, што такія складаныя тэмы ў Беларусі проста не прагаворваюцца. Як і не прагаворваюцца любыя складаныя тэмы».

Аляксандр Памідораў адзначыў, што ён увогуле мала звяртае ўвагі на інтэрнэт-каментары. «Хутчэй за ўсё, гэта было «на замову», бо каментары пачалі з'яўляцца гадзіны за дзве да пачатку трансляцыі», — заўважыў ён.

Але ж праваабаронцы, па ініцыятыве якіх быў рэалізаваны праект «Апошні золак», відавочна, засталіся задаволеныя вынікам. Як адзначыў каардынатар праекта «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Андрэй Палуда, толькі ў апошнія часы гэтая тэма становіцца медыйнай і публічнай.

«Нашай кампаніі ўжо пяць год. І, калі мы толькі пачыналі, мы сутыкнуліся з тым, пра што кажа Зміцер Вайцюшкевіч — тэма смяротнага пакарання, па вялікім рахунку, не абмяркоўвалася. Яна была не цікава ні публіцы, ні медыям, ні дзяржаўным, ні недзяржаўным, нават нягледзячы на вялікую колькасць даволі рэзанансных крымінальных справаў з такім сыходам. На сённяшнім этапе для нас нават не важна, якога кшталту былі каментары пасля анлайн-канцэрту. Для нас больш важна, што, у тым ліку, дзякуючы праекту, ідзе гэтае абмеркаванне праблемы смяротнага пакарання ў грамадстве. Каб неабходнасць адмены смяротнага пакарання даходзіла да розуму людзей і да сэрца», — сказаў ён.

## Працягу не будзе?

Пакуль праваабаронцы і музыкі не прадугледжваюць працягу гэтага праекта. То бок, «Апошняга золку — два» ці тры, ці чатыры не плануецца. І не таму, што «Золак» сапраўды «Апошні», гуляе ў словы Андрэй Палуда. «Магчыма, што будзе іншы сумесны праект, іншая сумесная праца з музыкамі ў гэтым кірунку, але «Апошні золак» — праект унікальны, і ён мусіць быць толькі адзін», — лічыць Палуда.

Аляксандр Памідораў адзначыў, што праект — гэта мастацкі твор, і ён будзе актуальны, нават калі смяротнае пакаранне ў Беларусі будзе адмененае. «Творы, якія тут прадстаўленыя, не маюць вызначанага часу жыцця. Тут ёсць новыя творы, і добра вядомыя творы, а як можна казаць, як доўга будзе жыць праект? Як доўга жыве «Народны альбом»? Не будзе такой сітуацыі, калі «усё, гэта ўжо неактуальна» — і ў сметніцу. Тут ёсць вельмі цікавыя рэчы, вельмі файныя прыклады — і музычныя, і літаратурныя, і выкананне, і гэты праект вельмі дасканалы. Казаць пра нейкі абмежаваны тэрмін ягонага жыцця немагчыма. Гэта адвечная тэма — жыццё, смерць, каханне», — лічыць ён.

Дарэчы, Сяргей Будкін адзначыў: «Калі нейкая пляцоўка рызыкне прыняць гэты праект у выглядзе канцэрту — чаму б і не?» А Зміцер Вайцюшкевіч прапанаваў правесці яго ў ягоным хутары ў Вайцюшках. Так што, з гэтай спантаннай ідэі, можа быць, нешта і выкалупнецца.

TV

## 25 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** «Забіць Сталіна» (Расія).
**10.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Рамантычная камедыя «Давай пацалуемся» (Украіна). Заключная серыя.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.25** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларускае «времечко».
**19.20** Спецыяльны рэпартаж.
**19.40, 01.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «На шляху да сэрца» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**22.10** Да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Дакументальны цыкл «Яны спявалі за Радзіму». Фільм 3..
**22.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Гандурас - Швейцарыя. Прамая трансляцыя.
**00.55** Актуальнае інтэрв'ю.
**01.45** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Час абедаць!».
**14.00** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі». Праграма Юліі Мяньшовай.
**16.15** «Смешнае і яшчэ смяшней».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.20** Серыял «Деффчонки».
**18.50** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Серыял «Даставіць любой цаной».
**22.05** АНТ прадстаўляе: «Музычныя вечары ў Мірскім замку». Канцэрт «Жывы рок».
**23.30** Кэмеран Дыяз ў фільме «Толькі яна - адзіная».
**01.20** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.55** «Глядзець усім!»
**09.10** «Нам і не снілася»: «Страчаныя». Ч. 1.
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** «Кіно»: П'ер Рышар ў фільме «Укол парасонам» (Францыя, 1980 г.).
**15.35** «Не хлусі мне!»
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Мае выдатныя ...».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Кіно»: «З вачэй - далоў, з чарта - прэч!» (ЗША, 2007 г.).
**22.15** «Глядзець усім!»
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «калі ласка, скардзіцеся».
**00.15** «Next-3». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Нож у аблоках» (Расія).
**10.05** Беларуская кухня.
**10.45** «Выведка» (Канада).
**11.40** Забаўляльная шоў-праграма «Суперітуыцыя. Бітва палоў» (Расія).
**12.50** Рэпарцёр.
**13.40** Імперыя песні. На біс.
**14.15** Забаўляльная шоў-праграма «Суперітуыцыя. Бітва палоў» (Расія).
**15.20** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**16.25** Дэтэктыўны серыял «Нож у аблоках».
**17.30** Футбол. Чэмпіянат свету. Агляд гульнявога дня.
**18.00** Час футбола. Рыа-2014.
**18.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Боснія і Герцагавіна - Іран. Прамая трансляцыя.
**20.55** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» .
**22.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Эквадор - Францыя. Прамая трансляцыя.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00, 12.50, 15.00, 17.05, 00.40** «Калейдаскоп».
**08.10, 13.00, 15.10, 17.15, 00.50** «Сімвалы эпохі». Яйкі Фабержэ.
**08.25** «Вязень замка Іф». Мастацкі фільм паводле рамана Аляксандра Дзюма «Граф Монтэ-Крыста». 2-я частка.
**09.30** «Аперацыя «Баграціён». Хроніка Перамогі. Фільм першы «Заходні напрамак».
**10.00** «Ідыёт». Маст. фільм паводле аднайменнага рамана Ф.М.Дастаеўскага. 8-я серыя.
**10.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Васіля Дубара.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.20** «Дзень поўні». Мастацкі фільм.
**13.15** «Беларусь на крыжы стагоддзяў». Фільм другі. Асноўныя вехі гісторыі Беларусі. Станаўленне хрысціянства, выдатныя асобы.
**14.10** Мультфільмы.
**14.30** «Размаўляем па-беларуску».
**14.35** «Кругі надзеі». Дакументальны фільм пра паэта Сяргея Грахоўскага.
**15.25** «Пейзажы скрозь час». Мастакі школы ракі Гудзон.
**15.55** «Настальжы». Спявак Алег Цівуноў.
**16.20** «Лёс старой кнігі». Дак. фільм.
**16.35** «Скарбніца Віцебшчыны». Храмы старога Віцебска.
**17.30** «Цуды прыроды». Манголія. Гобі. Іярданія.
**17.55** «Малады дубок». Кароткаметражны фільм паводле аднайменнага твора Я.Коласа.
**18.20** «Размаўляем па-беларуску».
**18.25** «Беларускі народны каляндар». Купалле.
**18.40** Прэм'ера. «Шляхта. Брутальная гісторыя». Дакументальны серыял пра станаўленне эліты на беларускіх землях. 3-я серыя.
**19.10** «Вязень замка Іф». Маст. фільм паводле рамана А.Дзюма «Граф Монтэ-Крыста». 3 частка.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Ідыёт». Маст. фільм паводле аднайменнага рамана Ф.М.Дастаеўскага. 9-я серыя.
**22.05** «Аперацыя «Баграціён». Хроніка Перамогі. Фільм першы «Заходні напрамак».
**22.35** «Лермантаў». Мастацкі фільм.
**00.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Васіля Дубара.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Серыял «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў з Леанідам Закашанскім.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**20.00** Вострасюжэтны серыял. «Шэф 2».
**21.40** Вострасюжэтны серыял «Пляж».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.55** Вострасюжэтны серыял «Таптуны».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.55** Аб'ектыў.
**08.25** Маю права. Журналісты «Белсату» расследуюць злоўжыванні ды парушэнні закону. Заўсёды ў інтарэсах грамадзянаў.
**08.45** Аўтаспынам па Беларусі: Шляхецкія маёнткі.
**09.05** Гісторыя пад знакам Пагоні: Liberum Veto.
**09.15** Басаног па свеце.
**09.40** Назад у будучыню.
**09.55** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 3 серыя.
**10.40** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, рэж. Антон Цялежнікаў, 2009 г., Польшча: ч. 1.
**11.25** «Лонданцы», серыял: 3 серыя.
**17.00** Паляванне на дзівосы.
**17.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Кацярына Сумарава.
**17.45** «Глыбокая вада», серыял: 7 серыя.
**18.30** Моўнік: Абразлівае слова?
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?
**19.40** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Казімір Лышчынскі.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага): «Хуткая» без дапамогі.
**21.55** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, рэж. Антон Цялежнікаў, 2009 г., Польшча: ч. 2.
**22.40** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 3 серыя.
**23.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.30** Аб'ектыў.

## 26 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 02.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** «Забіць Сталіна» (Расія).
**10.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «На шляху да сэрца» (Расія). 1-я серыя.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.25** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларускае «времечко»..
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 01.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** «На шляху да сэрца» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**22.10** Да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Дакументальны цыкл «Яны спявалі за Радзіму». Фільм 4-ы.
**22.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Расія - Алжыр. Прамая трансляцыя.
**00.55** Вечар цяжкага дня з Ягорам Хрусталёвым.
**01.40** Сфера інтарэсаў.
**02.15** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Час абедаць!».
**14.00** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі». Праграма Юліі Мяньшовай.
**16.15** «Смешнае і яшчэ смяшней».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.20** Серыял «Деффчонки».
**18.50** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Серыял «Даставіць любой цаной».
**22.05** АНТ прадстаўляе: «Музычныя вечары ў Мірскім замку». Юбілейны канцэрт «15 гадоў на сцэне» гурта «Тяні-Толкай».
**23.30** Фільм «Цёзкі».
**01.40** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.55** «Глядзець усім!»
**09.10** «Нам і не снілася»: «Страчаныя». Ч. 2.
**10.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** «Кіно»: фільм «З вачэй - далоў, з чарта - прэч!» (ЗША, 2007 г.).
**15.40** «Не хлусі мне!»
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Мае выдатныя...».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Кіно»: «Мумія: прынц Егіпта» (ЗША - Вялікабрытанія - Люксембург, 1998 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Next-3». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Нож у аблоках» (Расія).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.50** «Выведка» (Канада).
**11.50** Забаўляльная шоў-праграма «Суперітуыцыя. Бітва палоў» (Расія).
**12.55** Аўтабатл.
**13.30** Імперыя песні. На біс.
**14.05** Забаўляльная шоў-праграма «Суперітуыцыя. Бітва палоў» (Расія).
**15.10** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» .
**16.25** Серыял «Нож у аблоках» (Расія).
**17.30** Футбол. Чэмпіянат свету. Агляд гульнявога дня.
**18.00** Час футбола. Рыа-2014.
**18.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Партугалія - Гана. Прамая трансляцыя.
**20.55** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» .
**22.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Паўднёвая Карэя - Бельгія. Прамая трансляцыя.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00, 13.25, 15.30, 17.30, 21.05, 00.10** «Калейдаскоп».
**08.10, 13.35, 15.40, 17.40, 00.20** «Сімвалы эпохі». Матрошка.
**08.20** «Вязень замка Іф». Мастацкі фільм паводле рамана Аляксандра Дзюма «Граф Монтэ-Крыста». 3-я частка.
**09.55** «Аперацыя «Баграціён». Хроніка Перамогі. Фільм 2-і «Напрамак галоўнага ўдару».
**10.25** «Ідыёт». Маст. фільм паводле аднайменнага рамана Ф.М.Дастаеўскага. 9-я серыя.
**11.15, 23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Паўла Кармуніна.
**11.40** «Размаўляем па-беларуску».
**11.50** «Лермантаў». Мастацкі фільм.
**13.50** «Пані Перамога рэжысёра Матыля». Дак. фільм рэжысёра, ураджэнца горада Лепеля.
**14.40** «Размаўляем па-беларуску».
**14.45** «Беларускі народны каляндар». Сёмуха.
**15.05** «Карані». Ансамбль песні і танца «Васілёчкі» з горада Бельск-Падляшскі.
**15.50** «Наша спадчына». Шчучынскі палац Друцкіх-Любецкіх. 1-я і 2-я часткі.
**16.20** «Пра тое, як Колька і Пецька ляталі ў Бразілію». Кароткаметражны фільм па апавяданнях Данііла Хармса.
**16.45** «Размаўляем па-беларуску».
**16.50** «У пошуках Шэкспіра». Пра розныя падыходы да матэрыялу і погляды на рэжысуру.
**17.05** «Янка Маўр. Капітан дзіцячых мараў». Дакументальны фільм.
**17.55** «Жывіце ў гармоніі». Дак.фільм пра пра Бярэзінскі біясферны запаведнік.
**18.20** «Размаўляем па-беларуску».
**18.25** «Музеум». Пакланенне вешчуной.
**18.40** Мультфільмы.
**19.15** Прэм'ера. «Шляхта. Брутальная гісторыя». Дакументальны серыял пра станаўленне эліты на беларускіх землях. 4-я серыя.
**19.40** «Экіпаж машыны баявой». Маст. фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Ідыёт». Маст. фільм паводле аднайменнага рамана Ф.М.Дастаеўскага. 10 серыя.
**22.10** «Аперацыя «Баграціён». Хроніка Перамогі. Фільм 2-і «Напрамак галоўнага ўдару».
**22.35** «На Чорных Лядах». Мастацкі фільм паводле апавяданняў Васіля Быкава «На Чорных Лядах» і «Перад канцом».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Серыял «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**20.00** Вострасюжэтны серыял. «Шэф 2».
**21.40** Вострасюжэтны серыял «Пляж».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.55** Вострасюжэтны серыял «Таптуны».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.55** Аб'ектыў.
**08.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага): «Хуткая» без дапамогі.
**08.55** 54% (публіцыстычная праграма): Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?
**09.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Казімір Лышчынскі.
**09.25** Паляванне на дзівосы.
**09.45** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Кацярына Сумарава.
**10.00** «Глыбокая вада», серыял: 7 серыя.
**10.45** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 2.
**11.30** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 3 серыя.
**17.00** Паляванне на дзівосы.
**17.20** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**17.30** «Крыжовы шлях сям'і Радчанкаў», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**17.45** «Глыбокая вада», серыял: 8 серыя.
**18.30** Моўнік: Яўрэі. Жыды. Габрэі.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Недаатрыманы Нобэль.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: Ян Сабескі.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Усевалад Сцебурака і Юрась Беленькі.
**21.55** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 3.
**22.45** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 11 серыя.
**23.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.30** Аб'ектыў.

TV

## 29 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.10** «Начная фіялка» (Расія - Украіна).
**08.50** Слова мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на Дзень святых апосталаў Пятра і Паўла.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** «Сваты-4» (Украіна).
**10.45** «Аб ежы!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Скрынка перадач.
**13.50** Да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.Дакументальны цыкл «Выпрабаванне». Фільм 2-і.
**14.25** Дыялогі аб цывілізацыі.
**15.15** Твой горад.
**15.30** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**15.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна). Фільм «Жорсткі раман».
**17.00** «Палёт фантазіі» (Расія).
**18.55** «Ён, яна і я» (Расія).
**20.40** Навіны воблачнасць.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.50** «Сваты-4» (Украіна).
**22.50** Футбол. Чэмпіянат свету. 1/8 фіналу. Прамая трансляцыя.

### АНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субціграмі).
**09.20** «Шалапутнымі нататкі».
**09.40** «Пакуль усе дома».
**10.30** «Фазэнда».
**11.05** Аляксандр Панкратаў-Чорны ў фільме «Мы з джаза».
**12.45** Прыгодніцкі фільм «Пярліна Ніла».
**14.45** «Гарады-героі. Ленінград».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе: «Насмяшы коміка».
**17.10** «Музычныя вечары ў Мірскім замку». Канцэрт «Песня года Беларусі 2014» (частка 2).
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.20** Фільм «Рок-н-рол у аб'ектыве. Фотаздымкі Боба Груэна».

### СТВ

**06.10** «Студэнты». Серыял.
**07.50** «Кіно»: «Бессань» (ЗША - Канада, 2002 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** «Залатая калекцыя»: «Завяшчанне прафесара Доўэля» (СССР, 1984).
**14.30** «Тэрыторыя памылак з Ігарам Пракапенкам».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Чатыры вяселля».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў«На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** «Фільм тыдня»: «Каханне: інструкцыя па ўжыванні» (Італія, 2011 г.).
**23.00** Шоў «Арганізацыя Пэўных Нацый».
**00.25** «Арт-хаўс»: «Заўвага» (Ізраіль, 2011 г.).
**02.10** «Дакументальны спецпраект»: «Піраміды. Варонка часу».

### Беларусь 2

**07.20** Мультфільм «Халіф-бусел».
**07.40** Фільм-казка «Тры залатыя валаскі».
**09.10** Заўтра - гэта мы!
**09.35** Тэлебарометр.
**09.40** «Інтэрны» (Расія).
**11.45** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**12.20** «Хеллбой: герой з пекла» (ЗША).
**14.30** Аўтабатл.
**15.05** Стыль-бюро.
**15.40** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.
**16.45** Тэлебарометр.
**17.20** Футбол. Чэмпіянат свету. Агляд гульнявога дня.
**18.00** Суперлато.
**18.50** Футбол. Чэмпіянат свету. 1/8 фіналу. Прамая трансляцыя.
**20.55** Час футбола. Рыа-2014.
**21.45** Спортлато 5 з 36.
**21.50** КЕНО.
**21.55** Тэлебарометр.
**22.00** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**22.25** «Інтэрны» (Расія).
**00.20** Забаўляльная шоў-праграма «Суперінтуіцыя. Бітва палоў» (Расія). Заключны выпуск.

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Размовы пра духоўнае».
**08.20** «Прыморскі бульвар». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**10.35** «Прыцяжэнне Альберта Вейніка». Дакументальны фільм пра легендарнага вучонага, які займаўся вывучэннем анамальных і паранармальныя з'яў.
**11.25** «Калейдаскоп».
**11.35** «Размовы пра духоўнае».
**11.45** «У цэнтры Еўропы». Дакументальны фільм пра непаўторнаю прыгажосць беларускай прыроды ў Глыбоцкім раёне.
**12.10** Мультфільмы.
**12.30** «Размаўляем па-беларуску».
**12.35** «Росчырк часу». Майстар жаночага партрэта Галіна Конанава.
**12.50** «Любча. Восем дзён лета». Дакументальны фільм.
**13.20** Андрэй Мдзівані. «Страсці» («Рагнеда»). Спектакль Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Размовы пра духоўнае».
**15.15** «Любоў і жыццё маё ...». Дак. фільм пра кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча.
**15.45** «Размаўляем па-беларуску».
**15.55** «Палескі пачастунак». Закалота.
**16.10** «Мікалай Пінігін. Мяне няма». Дакументальны фільм.
**16.50** «Наперад у мінулае».
**17.20** Дзіцячы фільм. «Гутаперчавы хлопчык». Паводле аднайменнай аповесці Дзмітрыя Грыгаровіча.
**18.30** «Культпрасвет».
**18.55** Сусветнае кіно. «Удава з вострава Сен-П'ер».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «На «біс!». Канцэртная праграма цыганскага шоў Людмілы Радзівонавай «Алюр».
**23.15** «Культпрасвет».
**23.40** Ф. Шылер. «Каварства і каханне». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.
**01.30** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы разбітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома».
**10.20** «Першая перадача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паядзім!».
**11.55** «Дачны адказ».
**13.20** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**14.15** Вострасюжэтны серыял «Угро 5».
**16.15** Вострасюжэтны серыял «Угро 5».
**19.00** Сёння.
**19.50** Дэтэктыў «Рэквіем для сведкі».
**23.40** «Школа зласлоўя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.50** «Таямніца Сагалі», серыял: 10 серыя.
**08.15** Зона «Свабоды».
**08.50** Хто ёсць кім?: «Ганна Хітрык: «Думай пра добрае»».
**09.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.50** «Mad Men. Утрапёныя», серыял.
**10.35** Чаму дэмакратыя? «У пошуках Гандзі».
**11.30** Аўтаспынам па Беларусі: Падарожжы па Палессі.
**11.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Асіміляцыйная мяккасць – пад пагрозаю.
**11.55** Казкі для дзетак.
**12.30** «Таямніца Сагалі», серыял: 10 серыя.
**13.00** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**13.50** «Я – сын забойцы», 2008 г., ЗША–Польшча.
**14.50** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 4 серыя.
**15.35** МакраФон: «Канцэрт гурта «N.R.M.»»: ч. 1.
**16.35** «Не здавайся», 2011 г., Канада.
**18.00** «Лінія Сталіна. Гонар ці ганьба?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**18.35** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы ўнучок».
**18.55** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.10** «Джынсы, планета ў сінім», 2010 г., Францыя.
**20.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Бітва пад Венай.
**20.15** «Як пошуг маланкі», рэпартаж, рэж. Валерый Мазынскі, 2010 г., Беларусь.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Гётэ!», 2010 г., Нямеччына.
**22.55** Лета з дэтэктывам: «Зграя», сенсацыйны серыял: 4 серыя.
**23.55** «Глыбокая вада», серыял: 8 серыя.
**00.40** МакраФон: «Канцэрт гурта «N.R.M.»: ч. 1.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА [ ] НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ [ ]

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка [ ] уведомление [ ] простое [ ] заказное [ ] электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. ______ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Кассир

Пеня ______
Всего ______

# Трэцяя газавая, аднак не апошняя

Алег НОВІКАЎ

**Украіна і Расія ў трэці раз за апошнюю дэкаду выйшлі на шлях газавай вайны. Украінская прэса піша пра прычыны канфлікту і яго магчымыя сцэнары. Прапануем агляд СМІ Украіны.**




Відавочна, што цяперашняя газавая вайна не падобная на дзве папярэднія. Сёння мы назіраем не эканамічны, а палітычны канфлікт, у якім тэма газу — толькі вербальны камуфляж. Праўда, не зразумела, якія канкрэтна палітычныя рэзоны пераследуюць бакі. Пішуць, што Маскву можа штурхаць на вайну цэлы спектр прычын: пачынаючы ад банальнай помсты за нядаўні напад на пасольства РФ у Кіеве і заканчваючы жаданнем давесці эканоміку суседзяў да дэфолту. «Экономическая правда» мяркуе, што «Кіеву падчас газавых перамоваў можа быць прапанаваная схема «Крым у абмен на газ». Гэта значыць, юрыдычнае прызнанне прыналежнасці Крыму Расіі ў абмен на кошт у 268,5 долара за тысячу кубаметраў.

«Вечерние Вести» сцвярджаюць, што прычынай вайны стаў лёс праекту «Южный поток» — газаправоду, які будуецца для паставак расійскага паліва ў краіны Паўднёвай і Цэнтральнай Еўропы ў абыход Украіны. На мінулым тыдні аб прыпыненні работ па гэтым праекце заявілі Сафія і Бялград. У сувязі з гэтым газета піша: «Асноўным полем бою Брусэля з Масквой (пры ўсёй павазе да Кіева) сёння з'яўляецца «Южный поток». Кіеў у дадзенай сітуацыі — толькі «разменная манета» ў вялікай газавай гульні ЕС з Расіяй». «Вечерние Вести» прагназуюць, што на хуткіх перамовах Крэмль і Брусэль аддзеляць украінскую газавую «муху» ад еўрапейскай «катлеты» і дамовяцца па цане на газ для Кіева. Ідзя таго, што Захад не пакіне Кіеў сам на сам з Расіяй у гэтай вайне, — адна з любімых тэмаў дэмакратычных медыя.

Парадаксальна, але вялікі сегмент украінскай экспертнай супольнасці выступае супраць хуткага вырашэння канфлікту. Газета «Дело» называе пяць пазітыўных момантаў, якія нясе газавая вайна: «1. Украіна атрымае шанец разарваць кабальны газавы кантракт ад 2009-га года. 2. Дыверсіфікуе пастаўкі энергарэсурсаў. Правільная дыпламатыя і ўсведамленне таго факту, што з Расіі мы атрымаем нуль кубаметраў, зробяць дыверсіфікацыю рэальнасцю. 3. Зможа павялічыць стаўку транзіту. Тым больш, што альтэрнатывы ўкраінскай ГТС для Газпрому сёння няма. 4. Будзе эканоміць і скарачаць спажыванне газу. Энергаёмістасць вытворчасці ў Украіне ў 2–3 разы вышэй, чым у краінах ЕС і ЗША. 5. Пачне выкарыстоўваць свой уласны энергетычны патэнцыял. Толькі за кошт цвёрдага біяпаліва ўжо ў бліжэйшыя некалькі гадоў Украіна зможа зэканоміць ад 3,5 да 7 мільярдаў кубаметраў газу. Бягучая сітуацыя адназначна паспрыяе яго хуткаму прыняццю і, што яшчэ больш важна, выкананню. Часу на пустыя размовы няма, прыйшоў час дзейнічаць».

Прапануюць скарыстацца момантам і радыкальныя выданні. На іх думку, з улікам настрояў у грамадстве, сёння з'явіўся ўнікальны шанс разарваць рабскі газавы ланцуг, на якім Масква трымае Кіеў. «Украінская праўда» абураецца: «Дастае гэтая гісторыя з палітычным прадуктам пад назвай газ! Рэальна забралі Крым, які каштуе Украіне больш за 100 мільярдаў долараў ЗША, пачалі вайну на ўсходзе Украіны, дзе гінуць нашы ўкраінцы. Цяпер нам яшчэ ўціскаюць свой газпрамаўскі газ з шантажом! Зачыніце гэты вентыль і забудзьцеся на расійскі газ! Тады нарэшце мы забудзем на гэты кашмар пад назвай расійскі газ! Трэба проста хацець і ставіць сабе такую мэту».

Варта прызнаць, што газавая вайна моцна ўзняла градус антырасійскіх настрояў. «Ледзь ці не ўпершыню за многія гады аб'явы Расіяй чарговай «газавай вайны» Украіна сустрэла з рашучым настроем «но пасаран». Сапраўдная крывавая вайна ў нашай мірнай краіне, якая была б немагчымая без магутнай падтрымкі з боку «газаванага» суседа, загартавала ўкраінскія і народ, і ўладу. І стала, магчыма, першым рэальным шансам раз і назаўжды пакласці канец шантажу Масквы, падсадзіўшую на «газавую іголку» ўсю Еўропу.

**Кропка незвароту ў газавых перамовах з Расіяй — 15 ліпеня. Калі не пачнуць запампоўку газу ў сховішчы з гэтай даты, то не паспеюць да ацяпляльнага сезона**

Наўрад ці гэта будзе лёгка, аднак рана ці позна трэба пераходзіць на рынкавыя, а не палітычныя ўмовы цэнаўтварэння», — піша «Україна Молода».

Ура-патрыятычны тон характэрны толькі для праўрадавых газет. СМІ, якія раней падтрымлівалі Партыю рэгіёнаў, больш скептычныя ў ацэнках.

Напрыклад, газета «Сегодня», якая належыць алігарху Ахметаву, адзначае: «Рэверсныя пастаўкі са Славакіі могуць пачацца не раней за кастрычнік (што апрыёры ўжо позна), ды і змогуць худа-бедна задавальняць толькі бягучую патрэбу ў блакітным паліве. Акрамя таго, па словах экспертаў, не варта пераацэньваць і самі магчымасці ўсходнееўрапейскага рынку газу — усіх праблем Кіева ён не зможа вырашыць. Вось і выходзіць, што застаецца толькі «Газпром». Што тычыцца судовых разглядаў, то яны могуць доўжыцца як некалькі месяцаў, так і год і больш, а пытанне транзіту трэба вырашаць да сярэдзіны ліпеня, інакш зіма будзе халоднай не толькі для ўкраінцаў, але і для еўрапейцаў. І з гэтым нешта трэба рабіць».

Часопіс «Корреспондент», які належаў алігарху Курчанку, таксама скептычна ставіцца да пераможнай версіі: «Паспрабуем ацаніць гатоўнасць да «газавай вайны» з пункту гледжання рэзерваў, мабілізацыі і г.д. Такім чынам, у Украіны ёсць падземныя сховішчы газу, дзе знаходзіцца 10 мільярдаў кубаметраў газу, уласная здабыча ў гэтым годзе складзе каля 20 мільярдаў кубаметраў, яшчэ каля 5 мільярдаў кубаметраў будзе пастаўлена ў выглядзе рэверсу газу з Еўропы. Спажыванне газу ў гэтым годзе знізіцца па вядомых прычынах і складзе 45–50 мільярдаў кубаметраў. Гэта значыць, недахоп газу ацэньваецца ў 10–15 мільярдаў кубаметраў. Не так ужо дрэнна. Але калі вайна зацягнецца, то неабходна адшукаць рэзервы. На што можа разлічваць Украіна, гэта ў першую чаргу рэверс газу, але тут магчымасці ўжо вычарпаныя».

На думку газеты «Вести», пакуль што вайна будзе мець характар абмену пагрозамі. Пошук рашэнняў пачнуць у наступным месяцы: «Кропка незвароту ў газавых перамовах з Расіяй — гэта 15 ліпеня, упэўненыя эксперты. Калі мы не пачнём запампоўку газу ў сховішчы з гэтай даты, то не паспеем іх запоўніць да ацяпляльнага сезона. Гэта кропка незвароту. Наяўных запасаў нам не хопіць, нават з улікам рэверсных паставак. У нас няма паўнавартаснай альтэрнатывы расійскаму газу: яго доля ў агульным аб'ёме імпарту складае сёння 90%».

Гэта газавая вайна не будзе апошняй. «Расія будзе намагацца выжаць на тэме газу як мага больш палітычных бонусаў, паколькі ў доўгатэрміновай перспектыве Расія значна больш будзе залежыць ад экспарту газу, чым яго пакупнікі. Расія не выкарыстоўвала свае прыродныя багацці, каб дыверсіфікаваць эканоміку. Застойны гаспадарчы парадак становіцца ўсё большай эканамічнай праблемай Расіі: энергетычныя рынкі ў свеце змяняюцца, растуць альтэрнатыўныя магчымасці атрымліваць газ і іншыя энерганосьбіты і для ЕС у цэлым, і для Украіны», — пішуць «Экономические известия».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Для суседніх з Расіяй краін пытанне незалежнасці ад яе ва ўсіх сэнсах стала асаблівa актуальным на працягу апошніх шасці гадоў, калі на ўвесь былы СССР прагрымелі прыклады Грузіі і Украіны. Усе яны, Назарбаеў і іншыя лідары, калі прыязджаюць у Маскву, выступаючы з усялякімі еўразійскімі ініцыятывамі, і нават арганізоўваючы нейкія саюзы, усё роўна захоўваюць асноўную лінію паводзінаў — барацьбу за сваю незалежнасць самымі рознымі сродкамі. Напрыклад, такім змагаром з'яўляецца Лукашэнка. Ён вельмі па-майстэрску 15 гадоў захоўвае незалежнасць Беларусі, пры ўсім нашым разуменні таго, што сам ён — дыктатар.

**«Voice of America» (ЗША)**

Двайстая пазіцыя Лукашэнкі ў дачыненні да ўкраінскіх падзей не такая ўжо і нелагічная. Многія беларускія эксперты даюць ёй цалкам лагічныя тлумачэнні. І справа не толькі ў эканамічным інтарэсе, пра што неаднаразова казаў сам Лукашэнка. Беларускі прэзідэнт асцерагаецца, што ўслед за ўкраінскімі тэрыторыямі Расія можа зацікавіцца і беларускімі. Менавіта для гэтага Лукашэнку патрэбен «запасны аэрадром», а менавіта — добрыя адносіны з ЕС. Дарэчы, многія эксперты звязваюць нядаўні візіт Лукашэнкі ў Сербію з яго намерам неяк наладжваць адносіны на заходнім фронце. Ды і сам беларускі прэзідэнт ахвотна падтрымлівае версію пра тое, што нейкі сустрэчны рух там ёсць.

**«Независимая газета» (Расія)**

Не варта забываць аб надыходзячым «прэзідэнцкім» годзе. Напярэдадні выбараў кіраўніка дзяржавы ў Беларусі традыцыйна растуць зарплаты, пенсіі, дапамогі і стыпендыі. Што, напрыклад, адгукнулася пасля выбараў 2010 года дэфолтам улетку 2011-га. Пры гэтым эксперты кажуць, што рэсурсаў для традыцыйнай схемы росту дабрабыту гэтым разам замала. Але і рэфармаваць эканоміку ўладам не хочацца: рэформы — гэта амаль заўсёды праблемы.

**«RFI» (Францыя)**

Беларускія ўлады разумеюць, што нельга губляць украінскі напрамак пры такім вялікім тавараабароце паміж дзвюма краінамі. Акрамя таго, Мінск хацеў бы ведаць, наколькі зменіцца характар гандлю паміж Украінай і Еўропай пасля падпісання Кіевам эканамічнай часткі пагаднення аб асацыяцыі з ЕС, прызначанага на канец чэрвеня. Не выключана, што, калі Расія ўвядзе санкцыі супраць украінскіх тавараў або частковыя квоты на іх, то ўсе таварныя патокі «шэрага імпарту» з Украіны хлынуць у Беларусь і далей на расійскую тэрыторыю.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

У рамках саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі вось ужо 20 гадоў вядуцца размовы аб стварэнні адзінага рубля на базе расійскай валюты, але, як бачым, безвынікова. Справа ў тым, што Лукашэнка запатрабаваў, каб друкарскі станок знаходзіўся ў Мінску, але зразумела, што Масква ніколі гэтага не дапусціць. Ды і сам Бацька ні за што не аддасць свой, бо ўвесь бюджэтны дэфіцыт ён пакрывае друкаваннем беларускіх рублёў, прычым абсалютна гэта не хаваючы. Для яго друкарскі станок — гэта ўвесь сэнс яго існавання, яго палітычная стабільнасць. Ён ніколі з ім не расстанецца.

**«CAMonitor» (Казахстан)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Анексія Крыму пахавае Зюганава

Кампартыя Расійскай Федэрацыі (КПРФ) актыўна вітала крымскую авантуру Пуціна. Пры гэтым зюганаўцы, магчыма, не ведалі, што тым самым рыюць сабе магілу. Справа ў тым, што 14 верасня ў новым суб'екце РФ адбудуцца выбары ў мясцовы Вярхоўны савет, па выніках якіх па сутнасці вызначыцца партыйная палітра аўтаноміі. Расійскія федэральныя партыі (у тым ліку КПРФ) зараз актыўна ствараюць крымскія секцыі. І КПРФ дакладна пакуль прайграе. Справа ў тым, што Леанід Грач — самы вядомы і аўтарытэтны камуніст часоў знаходжання Крыму ў складзе Украіны, былы спікер парламенту паўвострава, заявіў, што КПРФ — гэта рэнегаты і здраднікі. Замест падтрымкі КПРФ Грач заняўся стварэннем аддзялення партыі «Камуністы Расіі» (партыя, якая спрабуе рабіць канкурэнцыю Зюганаву злева). Пры гэтым Грач лічыць рэальным набраць са сваёй новай партыяй 30 працэнтаў на вераснёўскіх выбарах. Такі поспех «Камуністаў Расіі», на думку аналітыкаў, мог бы мець рэзананс па ўсёй Расіі, дзе левыя выбаршчыкі даўно шукаюць альтэрнатыву Зюганаву. Як вядома, раней лідар Кампартыі Украіны Пётр Сіманенка дабіўся выключэння Грача з партыі. А Сіманенка, як вядома, асабісты сябра Зюганава, праз якога Грач цяпер помсціць. Застаецца ўзгадаць, што адной з прычын выключэння Грача была яго крытыка амаральных паводзін Сіманенкі, які збег ад жонкі да маладой журналісткі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. Далучыцца да цюркаў

Венгрыя выявіла жаданне далучыцца да Парламенцкай асамблеі цюркамоўных дзяржаў (ЦЮРКПА) у якасці назіральніка. У гэтай сувязі ў Баку, дзе праходзіць пятая сесія ЦЮРКПА, ужо прыбыла дэлегацыя венгерскага парламента. «Парламент Венгрыі звярнуўся з адпаведнай просьбай у ЦЮРКПА і атрымаў станоўчы адказ», — паведамілі журналістам у парламенце Азербайджана, які цяпер займае пасаду старшыні ў цюркскай парламенцкай асамблеі. Нагадаем, у ЦЮРКПА ўваходзяць чатыры незалежныя цюркскія дзяржавы — Азербайджан, Казахстан, Кыргызстан і Турцыя. Тры іншыя незалежныя цюркскія дзяржавы — Паўночны Кіпр, Туркменістан і Узбекістан — не ўдзельнічаюць у працы гэтай міжцюркскай структуры. Што тычыцца Паўночнага Кіпра — гэта дзяржава не прызнаная сусветнай супольнасцю. А вось Туркменістан і Узбекістан прычын сваёй адсутнасці ў ЦЮРКПА не раскрываюць. Што ж тычыцца Венгрыі, то яе імкненне ўступіць у цюркскія арганізацыі будапешцкія палітыкі тлумачаць тым, што венгры прыйшлі ў Еўропу з цюркскіх стэпаў. Апазіцыйныя СМІ лічаць, што ўзмацненне цюркскага азімуту Будапешта звязана з канфрантацыяй венгерскага нацыяналістычнага ўраду з Еўрасаюзам.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Еўраскептыкі ўвойдуць ва ўрад




Пасля прарыву нямецкіх еўраскептыкаў з партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) у Еўрапарламент (7 працэнтаў галасоў), кіруючая краінай партыя «Саюз хрысціянскіх дэмакратаў» (CDU) пачала ламаць галаву, як ставіцца да гэтага феномену. Галоўная праблема ў тым, што лібералы (у мінулым традыцыйны партнёр хрысціянскіх дэмакратаў па кааліцыі) паказалі слабы вынік — 3,4 працэнта. Ёсць небяспека, што лібералы назаўсёды застануцца ў другой лізе нямецкай палітыкі. У такім выпадку партыя Ангелы Меркель вымушана будзе браць у партнёры толькі эсдэкаў: іншыя парламенцкія партыі ФРГ — Левыя і Зялёныя — не гатовыя блакавацца з кансерватарамі. Выхад, на думку часткі кіраўніцтва CDU, у тым, каб пачаць фліртаваць з еўраскептыкамі. Ёсць галасы і супраць. Калі еўраскептыкі ўвойдуць у склад ураду, то яны могуць сабатаваць еўрапейскую інтэграцыю, маторам якой цяпер з'яўляецца Берлін. Пакуль адназначнага адказу ў Меркель і яе аднапартыйцаў няма, аднак яго прыйдзецца шукаць вельмі хутка. Гэтым летам у дзвюх землях ФРГ праходзяць рэгіянальныя выбары, а AfD мае там някепскія рэйтынгі. У выпадку з'яўлення фракцыі AfD у рэгіянальных парламентах, кансерватары могуць стварыць з імі кааліцыі. На думку палітолагаў, гэта можа выклікаць пратэсты эсдэкаў, што пагражае стабільнасці цяперашняга ўраду.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Гары Потэр і незалежнасць Шатландыі

Алег НОВІКАЎ

**Публічная падтрымка пісьменніцы Джаан Роўлінг кампаніі супраць незалежнасці Шатландыі выклікала цікавую рэакцыю брытанскага грамадства.**



Аўтар сагі пра Гары Потэра выпісала чэк на мільён фунтаў для грамадскай ініцыятывы «Bitter Together», якая агітуе шатландцаў выказацца супраць незалежнасці на восеньскім рэферэндуме. Матывам для Джаан стала перш за ўсё агрэсіўная прапаганда прыхільнікаў незалежнасці. На днях Роўлінг, якая жыве ў Эдынбургу, атакавалі мясцовыя нацыяналісты, якія пачалі даставаць яе пытаннямі пра яе паходжанне. Як вядома, Джаан нарадзілася ў Англіі, хаця яе маці мае шатландскія карані. Гэты інцыдэнт і падштурхнуў Роўлінг заняцца палітыкай.

Сваю пазіцыю Джаан тлумачыць рызыкай, якая можа ўзнікнуць пасля выхаду Шатландыі са складу Вялікабрытаніі. Увогуле, сама ідэя выхаду з'яўляецца, на яе думку, «глабальнай гістарычнай памылкай». «Калі мы пойдзем ад Вялікабрытаніі, у нас не будзе магчымасці вяртання. Гэты падзел не будзе хуткім і чыстым: нам прыйдзецца мікрахірургічна расклёўваць тры стагоддзі цеснай узаемасувязі», — лічыць пісьменніца. Пры гэтым Роўлінг падкрэслівае, што асабіста нічога супраць Шатландыі не мае, лічыць яе ўнікальным і прыгожым краем, дзе ёй вельмі ўтульна.

**Сваю пазіцыю Джаан тлумачыць рызыкай, якая можа ўзнікнуць пасля выхаду Шатландыі са складу Вялікабрытаніі. Увогуле, сама ідэя выхаду з'яўляецца, на яе думку, «глабальнай гістарычнай памылкай»**

Некаторыя славутыя персоны таксама падтрымлівалі кампанію супраць незалежнасці, аднак іх удзел быў больш сціплы. Напрыклад, вядомы экс-трэнер «Манчэстэр Юнайтэд» Алекс Фергюсан абмежаваўся чэкам у 500 фунтаў.

Грамадства актыўна каментуе ўчынак Роўлінг. Актывісты фонду «Yes Scotland», які заклікае галасаваць за незалежнасць, выказалі «расчараванне ўчынкам Джаан» і прапанавалі ёй пісаць кніжкі, а не лезці ў палітыку. У сацыяльных сетках разгарнулася сапраўдная вайна супраць Роўлінг. Некаторыя нацыяналісты нават заклікаюць да байкоту твораў пісьменніцы. Мелі месца і больш брутальныя заклікі. 15 чэрвеня паліцыя Эдынбургу ледзь не завяла справу з прычыны з'яўлення ў сацсетках постаў з пагрозамі расправы над Роўлінг.

Аднак больш цікавым быў адказ часткі лонданскіх левых інтэлектуалаў і дэмакратаў. Яны выступілі з правакацыйным тэзісам — місія кожнага сапраўднага англійскага дэмакрата заклікаць людзей галасаваць за незалежнасць Шатландыі. Шатландская незалежнасць — адзінае, што можа змяніць Англію пазітыўна.

На іх думку, шатландская незалежнасць будзе спрыяць захаванню сацыяльных стандартаў на Брытанскіх астравах. Як вядома, дзве дамінуючыя партыі ў шатландскай палітыцы — нацыяналісты і лейбарысты — прытрымліваюцца левых поглядаў. У выпадку абвяшчэння незалежнасці і стварэння самастойнага шатландскага парламента, гэта будзе самы левы парламент у Еўропе. Аднак куды важней тое, што выканаўчыя структуры такога парламенту змогуць праводзіць сацыяльна-эканамічную палітыку, кантрастную той, што праводзіць цяпер Лондан.

Нават у межах існуючай зараз не вельмі шырокай аўтаноміі Шатландыя намагаецца захоўваць, а не дэмантаваць сацыяльную падтрымку, як гэта робіць кансерватыўны кабінет Дэвіда Кэмерана. Так, на Поўначы захавалі мадэль бясплатнага навучання ў ВНУ. У выпадку абвяшчэння незалежнасці, Шатландыя будзе на першым месцы ў свеце па колькасці людзей з вышэйшай адукацыяй. Сёння 45 працэнтаў шатландцаў ва ўзросце з 22 да 64 год маюць універсітэцкі дыплом або вучацца ва ўніверсітэтах (другія — люксембуржцы і фіны з 40 працэнтамі). Гэты факт ужо выклікаў дэбаты ў Англіі за вяртанне да сістэмы бясплатнай адукацыі.

Тое ж самае тычыцца і грамадзянскіх правоў. Ужо сам рэферэндум аб незалежнасці Шатландыі з'яўляецца сімвалам таго, што людзі могуць дабівацца мірным шляхам змены дзяржаўных інстытутаў. Эксперты прагназуюць, што дэкларацыя аб суверэнітэце Шатландыі адразу ўзрушыць палітычныя працэсы ў Англіі. Як мінімум, удзельнічаць рэгіёны, якія будуць патрабаваць пашырэння сваіх паўнамоцтваў. Таксама не выключана, што англічан зацікавіць канстытуцыйны працэс у незалежнай Шатландыі. Алекс Салмонд, старшыня шатландскага ўраду, ужо паабяцаў, што канстытуцыя Шатландыі будзе першым у свеце асноўным законам, напісаным калектыўна праз інтэрнэт. Пра такую дэмакратыю англічане могуць толькі марыць.

Як сведчыць статыстыка, 63 працэнты ўсіх прыхільнікаў незалежнасці ў Шатландыі складаюць жанчыны. У рэгіёне нават дзейнічае шырокая грамадская кааліцыя «Жанчыны за незалежнасць». Паводле дакументаў арганізацыі, незалежнасць будзе спрыяць развіццю сістэмы аховы дзяцей і маці, дазволіць пазбавіцца ад лакальных брытанскіх вайсковых баз, на якіх знаходзіцца атамная зброя. Актыўнасць жанчын у Шатландыі таксама звязваюць з харызматычнай фігурай Ніколы Старжыон, намесніцы старшыні ўраду і галоўнага кандыдата ў пераемнікі Алекса Салмонда.

Нарэшце, незалежная Шатландыя, якая арыентуецца на ўступленне ў Еўрасаюз, можа дапамагчы Англіі захаваць еўрапейскую перспектыву. Зараз Англію захлынула хваля шавінізму і еўраскептыцызму, следствам чаго можа быць рэферэндум аб выхадзе Вялікабрытаніі са складу ЕС. Вопыт Шатландыі, якая застанецца ў ЕС, можа пераканаць брытанцаў у неабходнасці еўраінтэграцыі.

Застаецца праблема нацыяналізму, які можа набываць рэакцыйныя формы. Аднак, як прызнае большасць экспертаў, у тым ліку вядомы левы філосаф і крытык нацыяналізму Ноам Хомскі, шатландскі нацыяналізм мае хутчэй тэрытарыяльны характар. Ключавой ідэяй шатландскай незалежнасці з'яўляецца права на народны суверэнітэт.

Нагадаем, рэферэндум 18 верасня 2014 года. Пакуль што праціўнікаў незалежнасці Шатландыі на 6 працэнтаў больш, чым прыхільнікаў.

# Бельгію выратуюць д’яблы

Алег НОВІКАЎ

**Лёс Бельгіі як адзінай краіны залежыць ад таго, як згуляе яе зборная на чэмпіянаце свету па футболе.**




Прыкладна год таму ў Бельгіі нарадзіўся жарт: «Адзінства Бельгіі цягнецца толькі 90 хвілін». Жарт звязаны з сацыяльна-культурным феноменам бельгійскай футбольнай зборнай. Яе фантастычная гульня на кваліфікацыйным этапе цяперашняга чэмпіянату свету прымусіла валонцаў і фламандцаў (асноўныя этнічныя камуны ў краіне) забыць пра ўзаемныя прэтэнзіі і зноў горда называць сябе бельгійцамі. Журналісты нават заўважылі на вуліцах фламандскіх гарадоў бельгійскія сцягі, чаго тут не назіралася на працягу дзесяцігоддзяў.

Статыстыка гульняў «Чырвоных д’яблаў» на шляху ў Бразілію ўражвае. Каманда не прайграла ніводнага матчу. Паводле кваліфікацыі FIFA, напярэдадні Кубка свету ў рэйтынгу самых моцных футбольных каманд Бельгія займала 11-ю пазіцыю. Спартовыя каментатары сцвярджаюць, што цяперашняй бельгійскай зборнай па сілах паўтарыць поспех 1986 года ў Мексіцы, калі бельгійцы, разграміўшы спачатку зорную зборную СССР, а пасля і зборную Іспаніі, прарваліся ў паўфінал Кубка свету.

«Чырвоныя д’яблы» прыйшлі на дапамогу бельгійскаму адзінству ў самы цяжкі для яго час. У 2010–2011 гадах краіна перажыла самы зацяжны ўрадавы крызіс. На працягу 451-го дня ў краіне адсутнічаў урад. Галоўным фактарам крызісу быў сабатаж з боку фракцый фламандскіх нацыяналістаў. У выніку, праўда, палітыкі здолелі склеіць кабінет, які давёў краіну да новых выбараў, што былі прызначаны на 25 мая гэтага года. Паколькі 25 мая Бельгія абірала яшчэ мясцовых дэпутатаў і дэпутатаў Еўрапарламента, у прэсе той дзень ахрысцілі Supersunday (супернядзеля).

Supersunday разглядаўся фламандскімі нацыяналістамі як дзень-рэквіем па адзінай Бельгіі. Барт дэ Вефер, лідар партыі Новы Фламандскі альянс, загадзя назваў 25 мая днём рэферэндуму па пытанні незалежнасці рэгіёну. Магчыма, у іншы час выбарчая кампанія магла скончыцца перамогай сепаратыстаў, што, адпаведна, выклікала б новы ступар дзяржаўных інстытутаў Бельгіі. Аднак нечакана для ўсіх у працэс умяшаўся Яго Вялікасць Футбол. На фоне неверагодных перамог бельгійскай зборнай папулярнасць сепаратысцкіх лозунгаў пачала падаць.

Сацыёлагі засведчылі цікавую рэч. Футбол здолеў інтэграваць, здавалася б, абсалютна розныя палітычныя культуры валонцаў і фламандцаў. Апошнія сімпатызуюць ліберальным каштоўнасцям і ўбачылі ў гульні футбалістаў доказ вернасці дактрынам лібералізму. Мяўляў, паколькі футбалісты — добрыя прафесіяналы, яны і гуляюць цудоўна. У той жа час валонцы, якія традыцыйна галасуюць за левыя партыі, лічаць, што сакрэт перамог «Чырвоных д’яблаў» у калектыўнай арганізацыі. Таксама ў камандзе гуляе шмат бельгійцаў, які паходзяць з сем’яў афрыканскіх імігрантаў. Шмат каму такі склад каманды ў мініяцюры нагадвае сучасную Бельгію.

Футбалісты аказаліся ўцягнутымі ў вялікую палітыку. Іх шчырыя заявы, накшталт: «Бельгія належыць усім», — нечакана аказаліся больш пераканаўчымі для электарату, чым аргументы прафесійных палітыкаў з лагеру сепаратыстаў. Рэйтынг фламандскіх нацыяналістаў таксама падкасіла і ўпартае нежаданне некаторых лідараў Новага Фламандскага альянсу падтрымліваць футбалістаў зборнай. Так, спікер парламенту Бельгіі назваў заўзятараў «Чырвоных д’яблаў» «смешнымі людзьмі», што адразу адлюстравалася на папулярнасці яго партыі.

Не дарма за некалькі тыдняў да галасавання Барт дэ Вефер нечакана змяніў стратэгічны план развалу краіны. Галоўнай задачай для Новага Фламандскага альянсу стала фармаванне кааліцыйнага ўраду, які трансфармуе краіну ў канфедэрацыю. А ад канфедэрацыі, па словах Барта дэ Вефера, і да поўнай незалежнасці Фландрыі рукой падаць.

Трэба прызнаць, што на выбарах 25 мая Новы Фламандскі альянс здолеў перамагчы. Партыя атрымала 31 працэнт галасоў выбаршчыкаў, захаваўшы за сабой статус самай моцнай фламандскай партыі і самай папулярнай партыі ва ўсёй Бельгіі. Аднак для фармавання кааліцыі мандатаў сепаратыстам не хапіла. Ёсць меркаванне, што новы ўрад будзе сфармаваны на базе партый валонскіх сацыялістаў, фламандскіх лібералаў і хрысціянскіх дэмакратаў. Кароль ужо даў згоду на фармаванне ўраду. Цяпер ідуць міжпартыйныя кансультацыі.

Фламандскія нацыяналісты мабілізуюць усе сілы на тое, каб сарваць перамовы з патэнцыйнымі кааліцыянтамі. Яны прапануюць хрысціянскім дэмакратам і лібералам праграму комплекснай трансфармацыі бельгійскай эканомікі, дзе шмат рэліктаў сацыяльнай палітыкі 1970-х гадоў. А гэта тармозіць перамоўны працэс.

На думку палітолагаў, шмат у чым тэмп фармавання новага кабінета будзе залежыць ад вынікаў «Чырвоных д’яблаў» на чэмпіянаце свету па футболе. Поспех футбалістаў пачаў успрымацца ў масах не як спартыўны вынік, а як доказ таго, што народ можа мяняць гісторыю. Логіка такая: простыя хлопцы могуць рабіць добра для краіны, таму што іх аб’ядноўвае адзінае вялікая мэта, а не прагматычныя карысныя інтарэсы, уласцівыя палітычнай карумпаванай эліце.

Такая ўстаноўка нарадзілася ў бельгійскім грамадстве не толькі дзякуючы футболу, але таксама дзякуючы поспехам бельгійцаў у іншых сферах. Апошнім часам назіраецца ўсплёск сусветнай папулярнасці бельгійскіх музыкантаў, комікаў, мастакоў. Узнікла абсалютна новая атмасфера веры людзей у сваю краіну, якая можа захаваць адзінства і абнавіцца.

«Футбольная зборная — гэта апошні цэмент бельгійскай дзяржаўнасці»; «Пакуль гуляе зборная, Бельгія будзе адзінай», — такімі загалоўкамі праводзіла брусэльская прэса «Чырвоных д’яблаў» у Бразілію.

Ёсць і крытычныя каментары наконт таго, што адбываецца ў Бельгіі. Сацыёлаг Марк Джакеман лічыць, што за верай у сілу футбола стаіць звычайная медыя-гістэрыка. Відавочна, што як бы добра Бельгія не згуляла за акіянам, футбол не здольны мяняць эканамічныя інстытуты — базу для палітычнай надбудовы. Сацыёлаг заклікае суайчыннікаў як мага хутчэй перастаць верыць у футбольныя ілюзіі, каб пасля не стаць іх ахвярамі.

Аднак пакуль такія адзінокія галасы тонуць у акіяне татальнага футбольнага энтузіязму. І гэта лагічна. Футбол па сваёй прыродзе прымушае верыць у перамогу, у тым ліку і ў перамогу ідэі бельгійскай дзяржаўнасці.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аляксандр Арзуманян



Дэпутат армянскага парламента ад апазіцыйнай групы «Спадчына» Аляксандр Арзуманян стаў кумірам патрыётаў Арменіі пасля таго, як дазволіў сабе вельмі смелыя выразы на адрас вядомага крамлёўскага прапагандыста Дзмітрыя Кісялёва.

Заяве Арзуманяна папярэднічаў візіт Кісялёва ў Ерэван і выступ у парламенце краіны, які шмат хто назваў абразлівым для армян. Кісялёў, у прыватнасці, сказаў, што паступовы сыход рускай культуры і мовы з армянскай рэчаіснасці з'яўляецца праблемай бяспекі для рэспублікі, таму «неабходна ўзаемна прасоўваць рускую мову і рускую культуру ў краіне, змяніць закон аб мове ў інтарэсах бяспекі Арменіі». Пры гэтым журналіст паскардзіўся на тое, што 20-гадовы таксіст, які яго падвозіў, не здолеў палічыць па-руску.

Кісялёўскія пасажы раз'юшылі апазіцыю. Аляксандр Арзуманян назваў «цынічнымі» словы Кісялёва, адзначыўшы, што яны пагражаюць армянскай дзяржаўнасці. «Дарэчы, слова «цынік» у перакладзе з грэчаскай мовы азначае сабака, і я заклікаю пазбавіць Нацыянальны сход Арменіі ад сабачага брэху», — заявіў дэпутат.

Яшчэ адзін дэпутат, Нікол Пашынян запатрабаваў ад МЗС краіны абвясціць Кісялёва персонай нон-грата ў Арменіі.

### Андэрс Анундсэн



Міністр юстыцыі Нарвегіі ў кабінеце кансерватараў і правых папулістаў Андэрс Анундсэн усё ж праштурхнуў свой законапраект «Аб жабрацтве» ў мясцовым парламенце. Паводле новага закону, у краіне цалкам забараняецца прасіць міласціну ў публічных месцах.

Па гэтым законе кожная мясцовая камуна да наступнага лета павінна адрапартаваць Анундсэну аб тым, што жабрацтва на яе тэрыторыі цалкам знішчана. З 1 чэрвеня 2015 года асобы, якіх зловяць за гэтым заняткам, будуць вымушаны плаціць штраф або тры месяцы сядзець за кратамі.

Змагацца з жабракамі Анундсэна натхніла тэорыя пра тое, што жабрацтва звязанае з ростам крыміналу. У прыватнасці, жабрацтва кепска ўплывае на статыстыку кішэнных крадзяжоў.

На думку левай апазіцыі, на ўзровень крыміналу жабракі не вельмі ўплываюць. Проста ўрад хоча знайсці легальныя падставы для дэпартацыі з краіны балканскіх цыган, якія просяць міласціну з-за беспрацоўя. Паводле мясцовых законаў, некалькі прыводаў эмігранта ў паліцыю дазваляюць дэпартаваць такую асобу на радзіму. Левая апазіцыя таксама ўпэўненая, што забарона на жабрацтва будзе спрыяць большай крыміналізацыі цыганскіх камунаў.

### Перэ Навара



Перэ Навара падаў у адстаўку з пасады старшыні Сацыялістычнай партыі Каталоніі (PSC), што можна разглядаць як яшчэ адзін крок Каталоніі ў напрамку да незалежнасці.

Справа ў тым, што PSC, якая ўзнікла як партыя рабочых некаталонскага паходжання, доўгі час адмаўлялася падтрымліваць лозунг незалежнасці рэгіёну. Будучы часткай агульнанацыянальнай Іспанскай сацыялістычнай рабочай партыі (PSOE), яна спрабавала знайсці «трэці шлях» для Каталоніі.

Аднак у выніку ўсядзець на двух крэслах у Навара не атрымалася. Супярэчнасці пачалі нарастаць пасля таго, як частка дэпутатаў PSC у іспанскім парламенце вырашыла галасаваць сепаратна ад фракцыі PSOE, паколькі не падтрымлівала лінію кіраўніцтва на захаванне Каталоніі ў складзе Іспаніі. Гэта выклікала разборкі ў самой партыі, што ў выніку прывяло да адстаўкі Навара.

Будучыня PSC зараз пад пытаннем. Большасць палітолагаў лічыць, што яна аб'яднаецца з Левай рэспубліканскай партыяй Каталоніі, якая ад самага пачатку стаіць на пазіцыях незалежнасці. У такім выпадку партыйная сістэма Каталоніі будзе амаль цалкам незалежнай ад Мадрыду. З буйных іспанскіх партый толькі кансерватыўная Народная Партыя (PP) можа захаваць сваю каталонскую секцыю.

# Дэпартацыя пад бомбамі

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У маі-чэрвені 1941 года адбылася чацвёртая хваля дэпартацыі насельніцтва Заходняй Беларусі ўглыб СССР. Апошнія эшалоны з людзьмі пакідалі Беларусь пад бомбамі самалётаў Люфтвафэ.**

На працягу 1940 года ў заходніх абласцях УССР і БССР адбыліся тры этапы вывазу польскіх грамадзян у аддаленыя часткі Савецкага Саюза. Дэпартацыя, якая пачалася ўвесну 1941 года, павінна была канчаткова «засерагчы» тылы Чырвонай Арміі ў магчымым супрацьстаянні з «капіталістычным Захадам». Тым больш, што на працягу года, які прайшоў з моманту заканчэння трэцяй хвалі (28/29 чэрвеня 1940 года), у склад «першай краіны рабочых і сялян» увайшлі новыя тэрыторыя з несавецкім насельніцтвам. Гутарка ідзе пра прыбалтыйскія краіны, Бесарабію і Паўночную Букавіну.

## Новыя катэгорыі ахвяр

22 мая 1941 года часткі ўнутраных войскаў НКУС пачалі вывозіць людзей з заходніх абласцей УССР і з Малдавіі, у ноч з 12 на 13 чэрвеня аблавы прайшлі ў Літве, Латвіі і Эстоніі, 14 чэрвеня людзі ў васільковых фуражках ізноў «завіталі» да жыхароў Заходняй Беларусі.

Значным адрозненнем гэтай аперацыі ад папярэдніх трох было тое, што вясной-летам 1941 года павялічылася колькасць катэгорый грамадзян, якія падлягалі дэпартацыі. У адпаведнасці з «Дырэктывай НКУС СССР аб высяленні сацыяльна чужых элементаў з рэспублік Прыбалтыкі, Заходняй Украіны, Заходняй Беларусі і Малдавіі», у 1941 годзе вывазу падлягалі: удзельнікі контррэвалюцыйных партый і антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый; былыя жандары, ахоўнікі турмаў, кіруючы склад паліцыі; памешчыкі, фабрыканты, чыноўнікі буржуазных дзяржаўных апаратаў; былыя афіцэры царскага войска і белагвардзейцы; крымінальнікі; прастытуткі, зарэгістраваныя ў паліцыі; члены сямей адзначаных вышэй катэгорый грамадзян; члены сямей удзельнікаў контррэвалюцыйных і нацыяналістычных арганізацый, асуджаных да вышэйшай меры пакарання; асобы, якія ўцяклі з Польшчы і адмовіліся прымаць савецкае падданства; асобы, якія прыбылі з тэрыторыі Германіі ў парадку рэпатрыяцыі, а таксама немцы, зарэгістраваныя на выезд за мяжу, але якія адмовіліся выязджаць у Рэйх.

Былыя вайскоўцы і прадстаўнікі спецыяльных службаў буржуазных дзяржаў, а таксама немцы накіроўваліся ў лагеры для ваеннапалонных, а іншыя катэгорыі асоб, узгаданых вышэй (акрамя крымінальнікаў, якіх высылалі ў папраўча-працоўныя лагеры — І.М.), высылаліся на пасяленне тэрмінам на 20 гадоў у Казахстанскую ССР, Комі АССР, Алтайскі і Краснаярскі край, Кіраўскую, Омскую і Новасібірскую вобласці.


Леакадзія і Станіслаў Давыдзюкі, 1939 год

Усе гэтыя людзі атрымлівалі статус спецпасяленцаў і мелі права выбару месца жыхарства ў адзначаных рэгіёнах. Дэпартаваныя былі абавязаныя займацца «грамадка карыснай працай», мелі права ўступаць у калгасы. Былыя грамадзяне ІІ Рэчы Паспалітай былі абавязаны ўставаць на ўлік у мясцовых райаддзелах НКУС і кожны месяц праходзіць перарэгістрацыю. За парушэнне рэжыму спецпасяленцаў каралі штрафамі, а ў некаторых выпадках і нават турэмным зняволеннем (напрыклад, за спробу пакінуць спецпасяленне).

## Ахвяры дэпартацыі

Падчас акцыі «галоў сямей» спачатку не аддзялялі ад іх блізкіх. Гэтая працэдура звычайна адбывалася непасрэдна на чыгуначнай станцыі. Асаблівасцю аперацыі ў БССР было тое, што мужчын часцей за ўсё накіроўвалі ў турмы НКУС. У адпаведнасці з дакладной запіскай Лаўрэнція Цанавы сакратару ЦК КП(б) Беларусі Панцеляймону Панамарэнку ад 21 чэрвеня 1941 года, на тэрыторыі заходніх абласцей савецкай Беларусі было арыштавана 2059 удзельнікаў беларускіх, польскіх, украінскіх, рускіх, яўрэйскіх контррэвалюцыйных арганізацый, чыноўнікаў «былой польскай дзяржавы», белагвардзейцаў і іншых контррэвалюцыйных элементаў. Усяго ж, у адпаведнасці са справаздачамі савецкіх спецыяльных органаў, падчас чацвёртай дэпартацыі ў аддаленыя раёны СССР было вывезена больш за 20 тысяч жыхароў Заходняй Беларусі, для транспарціроўкі якіх выкарыстоўвалі 20 чыгуначных эшалонаў.

Сярод тых, каго дэпартавалі летам 1941 года, была маці жыхаркі польскага горада Зялёная Гура Ірэны Петшак. «Да Другой сусветнай вайны мой дзед Станіслаў Давыдзюк служыў у Дзяржаўнай паліцыі ў Косаве Палескім, а пазней быў пераведзены ў Мерачоўшчыну. Там ён ажаніўся з маёй бабуляй Леакадзіяй з дому Жылінскіх. У іх нарадзіліся дзве дачкі Ганна і Тэрэза. У кастрычніку 1939 года майго дзеда арыштаваў НКУС. Пазней яго накіравалі ў Мінск. З гэтага моманту мы нічога не ведаем пра лёс гэтага чалавека. Відавочна, прозвішча Станіслава Давыдзюка знаходзіцца ў Беларускім катынскім спісе. У чэрвені 1941 года савецкія ўлады прыйшлі і за маёй бабуляй і яе дочкамі», — расказвае жанчына.

Перад намі пратаколператрусу, што адбыўся ў доме Давыдзюкоў, які знаходзіўся на вуліцы Максіма Горкага (да вайны вуліца Касцельная — І.М.) у Косава. 20 чэрвеня 1941 года ў 3 гадзіны ночы супрацоўнікі раённага аддзела Косаўскага НКДБ паведамілі жонцы польскага паліцыянта пра рашэнне аб яе высяленні ўглыб СССР. Пры гэтым у яе былі канфіскаваныя: польскі пашпарт за № 2509071, альбом з фотаздымкамі, і розныя, у тым ліку сярэбраныя, манеты часоў ІІ Рэчы Паспалітай. Хутка жанчына з дзвюма дочкамі апынулася ў чыгуначным вагоне, які рухаўся на ўсход.



Пратакол ператрусу ў доме Давыдзюкоў і іх рэчы

А вось як апісваў апошнюю хвалю дэпартацый адзін з жыхароў Ваўкавыска: «Тры гадзіны ночы. 21 чэрвеня 1941 года. Стук у дзверы і ў вокны будзіць нашую сям'ю. Мама адчыніла дзверы. У хату ўвайшлі тры жаўнеры НКУС. Яны правяраюць дакументы, але нам іх не вяртаюць. Адзін з супрацоўнікаў зачытвае нам паперу, з якой вынікае, што на падставе пастановы Вярхоўнага савету СССР мы перасяляемся ў іншую вобласць. Пытаемся: «Куды?» Адказу няма. Даюць 20 хвілін на зборы. Бярэм трошкі рэчаў. Бабуля ляжыць у ложку хворая. Яе таксама спрабуюць забраць, але адзін з нкусаўцаў кажа: «Старуха і так падохне. Не трэба яе браць». Развітваемся з бабуляй. Па дарозе нкусаўцы забіраюць іншыя сем'і. Хутка ўязджаем на станцыю Ваўкавыск Цэнтральны. Тут ужо шмат людзей, а вакол жаўнеры з вінтоўкамі. На першым і апошнім вагонах цягніка стаяць кулямёты. На тармазных платформах саставу ахоўнікі НКУС. Жаўнеры зачытваюць прозвішчы і загадваюць лезці ў вагоны. Нас назбіралася ў вагоне чалавек 40. Апоўдні жаўнеры зачыняюць вагоны. Становіцца горача і душна».

## Люфтвафэ палюе на эшалоны з людзьмі

Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз, аперацыя па дэпартацыі не спынілася. Савецкія ўлады імкнуліся здзейсніць свае злачынныя планы нават ва ўмовах нямецкай агрэсіі. Цягнік, у якім ехалі на ўсход Леакадзія Давыдзюк з дочкамі, трапіў пад моцную бамбардзіроўку ў Мінску, падчас якой загінула шмат людзей, якіх вывозілі ўглыб СССР. Вось як адзін з відавочцаў апісваў налёт нямецкай авіяцыі на эшалон:

«Нас везлі ўсё далей і далей, без вады, свежага паветра. Перад мостам праз раку Зяльвянку рэйкі рабілі паварот, і тады я ўбачыў увесь наш эшалон. Ён складаўся з 40 таварных вагонаў з забітымі вокнамі. У сярэднім у вагоне было па 80 чалавек, а цалкам у саставе ехала каля трох тысяч дэпартаваных. Ля самага моста на цягнік наляцелі нямецкія самалёты. Адзін за другім яны скідвалі бомбы. На бамбардзіроўку заходзілі некалькі разоў, адначасова страляючы з кулямётаў. У гэты час цягнік спыніўся, і ахова пабегла ў абочыну хавацца ад налёту. Людзі ўсё гэта бачылі праз адтуліны ў вагонах. Калі кулі застукалі ў дах вагона, усе прыгатаваліся да смерці. Не ўсім давялося выжыць у тым налёце. Многія загінулі ад нямецкіх бомбаў. Іншыя спрабавалі ўцячы і загінулі ад куляў нкусаўцаў. Праз некалькі гадзін транспарт сфарміравалі зноў. Знішчаныя вагоны адчапілі, а забітых закапалі ля чыгуначных шляхоў. На дахах вагонаў было шмат савецкіх бежанцаў. Гэтыя людзі прыехалі ў Заходнюю Беларусь пасля верасня 1939 года і зараз беглі ад немцаў. У Стоўбцах, на некалі польскай памежнай станцыі, у вагоны прынеслі хлеб і дазволілі набраць вады. За Стоўбцамі нямецкія самалёты з'яўляліся часта, а савецкіх мы так і не ўбачылі».

Са справаздачы НКУС ад 5 ліпеня 1941 года дакладна вядома, што спецорганам не ўдалося вывезці ўсіх, хто быў унесены ў спісы на дэпартацыю з Заходняй Беларусі. Нехта загінуў пад нямецкімі бомбамі, другіх расстралялі савецкія карнікі. Леакадзію Давыдзюк з дочкамі дэпартавалі ў Новасібірскую вобласць, у вёску Чугунка. Пазней яны былі вывезены ў Стаўрапольскі край, дзе жонка паліцэйскага працавала ў саўгасе № 107. У 1946 годзе гэтая сям'я вярнулася ў Польшчу.


Адна з сямей дэпартаваных жыхароў Заходняй Беларусі, 1941 год

Сяргей ШАПРАН

**Да 90-годдзя Васіля Быкава ў выдавецтве «МЕДЫЯЛ» пры падтрымцы мецэната Паўла Бераговіча выйшлі адразу дзве ўнікальныя кнігі — «Мёртвым не баліць» і «Ліквідацыя» — і абедзве ўпершыню апублікаваныя без тых цэнзурных купюр, якія былі зроблены ў аповесцях падчас іх першай публікацыі і якія пераходзілі на працягу дзесяцігоддзяў з аднаго выдання ў другое.**



Васіль Быкаў за працай. Першая палова 1960-х

# Васіль Быкаў пад цэнзурным абстрэлам

## Самая антысталінская аповесць Васіля Быкава ўпершыню выйшла без цэнзуры

### Самая аўтабіяграфічная

«Мёртвым не баліць» — адзін самых драматычных твораў Васіля Быкава. Драматычны не толькі па змесце, але і па сваім лёсе: напісаная ў 1964–1965 гады і ўпершыню з'явіўшаяся на старонках часопіса «Маладосць», пасля публікацыі ў «Новом мире» аповесць была забаронена на дзесяцігоддзі. Галоўнай прычынай гэтага было тое, пра што пазней сказаў сам Быкаў: «...гэта ці не адзіная аўтабіяграфічная аповесць, дзе ўсё ці амаль усё — праўда. Але тое, што праўда, і стала непрымальным для часу сацрэалізму. Можна сказаць, што галоўным ворагам гэтага славутага метаду была менавіта праўда».

Між тым, паводле прызнання Быкава, гэтая аповесць — «найбольш аўтабіяграфічная» з усяго ім створанага. Ён пісаў у адным з лістоў: «Мы освобождали Северинку (399 стрелковый полк III СД) в начале января 1944 г., помню, день провели на ее окраине, на кладбище, был бой, немцы вели огонь со стороны Кировограда. К вечеру мы свернули в степь, на гору, за реку, и ночью в степи столкнулись с немецкими танками, которые разгромили наш батальон. Я был ранен в ногу, случайно подобран своими, которые привезли меня в какое-то село (не знаю его названия), оставили в хате санчасти возле церкви, но назавтра оттуда всех нас выбили немцы, и я спасся в последнюю минуту — выполз из хаты и был подобран на последнюю повозку. Все это описано в моей повести «Мертвым не больно» до того места, где мои герои попадают в плен к немцам. В действительности в плен я не попал — зарылся в скирду соломы...»

Працуючы над аповесцю, Быкаў добра разумеў, што калі напісаць так, як ён лічыць патрэбным, — не прапусціць цэнзура. Пазней, падчас нашай размовы на самым пачатку 1990-х, адказваючы на пытанне: «Когда вам указывали на ваши якобы ошибки, вы поправлялись?», Васіль Уладзіміравіч гаварыў: «Если бы я и не реагировал непосредственно (хотя я не мог этого не делать, поскольку «ошибки» подчеркивались красным карандашом и произведение не пускалось в набор, пока подчеркнутое не исправлялось), то при работе этот незримый редактор всегда присутствовал! По существу происходила трудная борьба с внутренним цензором». Невыпадкова яшчэ ў студзені 1965 года Быкаў паведамляў крытыку Ванкарэму Нікіфаровічу: «А я пацію пішу. Праўда, скончу яшчэ не хутка — праз месяц, другі. Не ведаю, што атрымаецца. Рызыкоўны вобраз асабіста я ўжо перарабіў. Пасля «Пасткі» рашуў абхадзіць такія павароты, бо ўсё роўна іх ламаюць у рэдакцыях, а гэта горш, чым калі зробіш (паламаеш) сам. Праўда, тое, што хачу, я ўсё роўна скажу. Не праз той, дык праз другі вобраз. Рознай пошасці, на шчасце ці няшчасце, у нас хапае».

Што тычыцца «Пасткі», дык у гэтай аповесці таксама незайздросны лёс: напісаная ў 1963 годзе, яна была адрэдагаваная ў «Маладосці», аднак апублікаваная не была. «Пастка» дайшла да чытача толькі ў 1965-м, прытым фінал яе быў перароблены: калі ў ранейшай рэдакцыі галоўны герой лейтэнант Клімчанка, які трапіў у нямецкі палон, канчаў жыццё самагубствам, дык у пазнейшай рэдакцыі ён не толькі заставаўся жыць, але і быў выратаваны камандзірам роты ад смершаўца.

Зразумела, што падчас працы над аповесцю, дзе асабіст быў ужо адным з цэнтральных персанажаў, Быкаў не мог забыцца пра гісторыю з «Пасткай». У лісце да Нікіфаровіча ён меў на ўвазе, безумоўна, гэтую сюжэтную лінію ў «Мёртвым не баліць»: Сахно — Гарбацюк, асабіст — старшыня Ваеннага трыбунала. Відаць, менавіта сумны вопыт друкавання «Пасткі» прымусіў Быкава ўнесці практычна ў апошні момант істотныя праўкі ў «Мёртвым не баліць». Так, у чыставой версіі аповесці Сахно прадстаўлены проста як «штабны афіцэр» — яго пасада фігуруе толькі ў чарнавым варыянце: намеснік камбата. Гэтай пасадай аўтар «надзяліў» Сахно ўжо падчас праўкі, хаця першапачаткова Сахно быў названы смершаўцам, аднак у выніку праўкі СМЕРШ быў выкраслены Быкавым яшчэ ў чарнавым варыянце, прычым — неаднойчы.

### «Под замутненным оком Главлита»

Зрэшты, у аповесці прысутнічала не толькі самацэнзура — у першую чаргу трэба гаварыць пра цэнзуру, якая была падчас падрыхтоўкі публікацыі ў 1965 годзе ў часопісе «Маладосць», бо рэдактура працавала, паводле знакамітага выраза Аляксандра Салжаніцына, «под замутненным оком Главлита». Так, найперш неаднойчы былі выкраслены імёны Сталіна і яго памагатага Берыі, а таксама ўсё, што было звязана з паняццем берыяўшчыны. Вымарывалася і любое прыгадванне «культу», бо чытач 1960-х гадоў адразу разумеў, што размова ідзе пра культ асобы Сталіна, які дзесяцігоддзем раней быў развенчаны Мікітам Хрушчовым. У «сметніцу» ішлі і шматразовыя




У афармленні вокладкі кнігі выкарыстаны малюнак Васіля Быкава

прыгадванні сумна вядомага загада Вярхоўнага Галоўнакамандуючага пад нумарам 227, які савецкая прапаганда называла «Ни шагу назад!». Гэты загад забараняў пад пагрозай расстрэлу любое адступленне, на яго падставе ствараліся штрафныя батальёны і загараджальныя атрады, якія павінны былі расстрэльваць байцоў Чырвонай Арміі ў выпадках іх панічнага адступлення. Пісаць пра гэта забаранялася, таму і выкрэсліў Быкаў любыя намёкі на бесчалавечны загад. Таму адсутнічае і ў чыставой рэдакцыі, і, вядома, у публікацыях рэпліка аднаго з галоўных персанажаў аповесці — капітана Сахно: «У палон паздавацца? Дудкі! Не будзе выйсця — кулю ў лоб! Вось! Не хопіць адвагі — мне далажы! Я памагу. Не ў бірулькі гуляем. Вайна, чорт пабяры!» — гэтыя словы фігуруюць выключна ў чарнавой рэдакцыі.

Што ж тычыцца вобраза штабнога афіцэра Сахно, дык ён знаходзіўся, мусіць, пад самым пільным наглядам рэдактуры. Таму і крэсліліся шматлікія быкаўскія негатыўныя ацэнкі Сахно, да прыкладу, наступныя: «Сахно быў наша няшчасце, наша кара, яго ніхто не любіў і многія баяліся»; «Няўжо ён такі і павінен быць паводле ягонай пасады? Якая тады нялюдская тая пасада!»; «А Сахно? Ці бачыць ён сваіх хлопчыкаў? Тых, што пагінулі ад яго і праз яго?»

Аналагічны лёс спасціг і своеасаблівага двайніка Сахно — былога старшыню Ваеннага трыбунала Гарбацюка, якога Васілевіч памылкова прымае за Сахно і наступным чынам характарызуе яго: «...відаць па ўсім, ён — недалёкі, прамадушны, некалі, мабыць, даволі зубаты, хоць цяпер тыя зубы парадкам прытупіліся»; «Ягоныя развагі знаёмыя мне яшчэ з тых часоў. Надзіва, за дваццаць год яны не змяніліся. Мяняліся людзі, адбываліся рэвалюцыі, чалавецтва прарвалася ў космас, вызваліла ўнутрыатамную энергію. А тыя сталінскага толку драпежныя ў адносінах да чалавека погляды працягваюць жыць у ім як ісцінны. Ну і трапіўся мне франтавічок!» Словы гэтыя адрасуюцца Васілевічам Гарбацюку, які ў адказ на пытанне: «А калі сволачы вынішчалі народ, вы таксама лічылі гэта справядлівым?» пачынае трэсціся: «А гэта не нашага розуму справа! То была дзяржаўная палітыка. Што ў ёй не так — партыя паправіла». Ці варта казаць пра тое, што ў публікацыях аповесці ад гэтых слоў Гарбацюка не засталося і следу? Таксама як і ад наступнай самаўпэўненай пагрозы былога старшыні трыбунала: «Зноў нас паклічаце! Але позна будзе!»

Адсутнічае ў публікацыях аповесці і такая непрыхаваная іронія аўтара: «А то разлянелі, распанелі на вайне. Калхозічкі, такую вашу матары!..» А афарыстычныя чатыры сказы: «Часы мяняюцца. Вы хацелі паесці сыта. А мы — жыць справядліва. Невялікая, але ўсё ж розніца» самім жа аўтарам, відаць, па патрабаванні рэдактуры былі перапісаны на адзін просценькі сказ: «Калі наясіся досыта, дык захочацца і жыць па справядлівасці». І што ўжо казаць пра наступнае недаравальнае свавольства Быкава: «Ганяюць, як статак авец па стэпе. І гінем па-дурному, без патрэбы. Ні за што кладуць свае галовы людзі. Бо няма начальства, няма каму арганізаваць гэтых тылавікоў, забеспячэнцаў, параненых. Хіба не безабразіе?»

Наогул кажучы, у «Мёртвым не баліць» было зроблена каля 200 купюр менавіта цэнзурнага характару, прычым пад купюрамі ў дадзеным выпадку трэба разумець як скарачэнні ў адно слова, так і купюры памерам у некалькі сказаў ці нават некалькі старонак, бо ўсё гэта, як кажа адзін з герояў быкаўскай аповесці, «не той матэр'яльчык». Між іншым, гэтых слоў у канчатковай рэдакцыі аповесці таксама няма — яны былі скарочаны цэнзурай.

Працяг будзе

# Застацца ў гісторыі

Наталля ГАРДЗІЕНКА

**У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва паўстала навукова-творчая ініцыятыва «Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа». Стварэнне такой структуры звязана з неабходнасцю сістэматычнага збірання дакументаў, друкаў, артэфактаў, што ствараліся і ствараюцца беларусамі па-за межамі метраполіі.**

Калі раней функцыі такога збірання ў пэўнай ступені выконвалі эміграцыйныя ўстановы на Захадзе, як, прыкладам, Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане або Цэнтр Ф. Скарыны ў Мінску, дык цяпер, з пашырэннем геаграфіі беларускіх дыяспар, сістэматычнага мэтанакіраванага збірання даробку замежных суайчыннікаў не вядзецца. У выніку каштоўная частка беларускай культурнай спадчыны губляецца для сучасных і будучых даследчыкаў.

Лёсы архіваў беларускіх дзеячаў і арганізацый у замежжы — складаная, а часам і трагічная старонка айчыннай гісторыі. Можна прывесці дзясяткі прыкладаў знікнення ці нават свядомага знішчэння каштоўных збораў нашчадкамі або нейкімі структурамі. Разам з тымі дакументамі знікаюць вялікі пласт інфармацыі і сам даробак суродзічаў за мяжой. Яны застаюцца нябачнымі і для даследчыкаў, і, як вынік, для шараговых суайчыннікаў.

Паводле задумы, новы цэнтр прызначаны для садзейнічання выяўленню, захаванню, апісанню, вывучэнню і папулярызацыі дакументальнай спадчыны беларускага замежжа на базе Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

Варта адзначыць, што ў БДАМЛіМ на працягу апошніх дзесяцігоддзяў ужо ішло паступовае збіранне замежнай беларусікі. Свае архіўныя зборы сюды передалі вядомыя дзеячы замежжа Масей Сяднёў, Алесь Алехнік, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель. Нядаўна ў архіў была перададзеныя вялікая калекцыя дакументаў згаданага ўжо вышэй Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Такім чынам, новастворany цэнтр мае добрую базу для сваёй дзейнасці.

Сярод задач цэнтра можна адзначыць выяўленне беларускіх дакументаў у замежных архівах, музеях і бібліятэках, зборах арганізацый беларускага замежжа, а таксама прыватных асобаў; арганізацыю камплектавання і стварэнне архіўных фондаў беларускіх грамадска-культурных арганізацый замежжа і дзеячаў беларускіх дыяспар у складзе Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва; навуковае апісанне дакументальнай спадчыны беларускага замежжа; спрыянне яе навуковаму вывучэнню; папулярызацыя ў беларускім грамадстве ведаў пра дзейнасць за мяжой беларускіх арганізацый, выдатных асобаў беларускага паходжання. Мяркуецца ажыццяўляць кансультаванне зацікаўленых асобаў па пытаннях захавання і вывучэння дакументаў, публікацыю матэрыялаў на падставе сабраных архіваў.

Сёння надзвычай важным ёсць збіранне дакументаў і друкаў дзеючых арганізацый і суполак, а таксама захаванне архіваў дзеячаў далёкага і блізкага замежжа. Таму цэнтр спадзяецца наладзіць цеснае супрацоўніцтва з усімі зацікаўленымі асобамі і арганізацыямі як за мяжой, так і ў Беларусі, каб не даць знікнуць багатай спадчыне беларускага замежжа.

*У справе супрацоўніцтва па пытаннях, звязаных з захаваннем і вывучэннем замежнай беларусікі можна звяртацца да дырэктара БДАМЛіМ Ганны Запартыкі або гісторыка Наталлі Гардзіенкі.*

*Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.*

*Сайт: http://bdamlm.by/*

*Адрас: Мінск, вул. Кірыла і Мефодыя, 4.*

*Тэл.: +375(17)3274781.*

*E-mail: bdamlim@tut.by; nhardzijenka@gmail.com.*


Алесь
Салавей

Я прыйшоў ад зямлі, ад людзей
у сусьвет — час плыў хваляю хуткай.
Ад жыцьця не ўцякаў анідзе
у пагоню за таннай пагудкай.

О, зямля! Гэта ты, толькі ты
жыцьцядайнаю казкай шумцела;
ты адна майго зла нераты
разрывала, кукобіла цела.

Людзі, людзі! Вы — сіла зямлі,
розум ейны і ўзьлёту імкненьне,
як-жа так вы яе давялі
да руіны — сьлядоў спусташэньня?

Як-жа так?.. І калі мільгане
сьмерці меч — падарожны ёй посах, —
да жыцьця ўся істота імкне,
а спакой для душы — у нябёсах.

Як вяртаецца зь іх — і зямля
зноў кунежная; людзі з дагодай
засяваюць, надзеі сьпяляць,
дні ўсьцяшаюць зямной насалодай.

Толькі, толькі тады і жыву,
і твару, і душой спачываю,
і у сьне, і ня ў сьне — на яву —
пра зямлю і людзей я сьпяваю.

17. 5. 1944.

БІНіМ

Аўтограф верша Алеся Салаўя




Сяброўская карта Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі (1950-я гады)




Скаўцкая пілотка з эмблемай Згуртавання беларускіх скаўтаў




Эмблема-пячатка Беларускага інстытуту навукі і мастацтва




Пасведчанне «Кніжачка беларускага эмігранта» (1950-я гады)



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 814

Падпісана да друку 20.06.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.